Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 11 (4862) 18 сакавіка 2016 г.



**Міхась СТРАЛЬЦОЎ**

## МАЖОРНАЕ

*Зноў вясна! —*
*прэч, адзежы зімы,*
*з цела, з душы,*
*з учарашняй надзеі!*
*Вольны цяпер:*
*захачу —*
*горадам прарасту,*
*камяніцамі ў цёмнае*
*неба.*

*Страпянуўся ад*
*тупату ног,*
*ад крыку травы,*
*ад трызнення вады,*
*ад сп'янелага ветру,*
*што рвецца*
*ў трамвайныя дзверы.*

*Стану смерчам рэклам,*
*стану ноччу і днём*
*і заложнікам першага*
*грому.*
*Вольны цяпер! —*
*захачу —*
*над зімою паплачу.*


Фота Анатоля Клешчука.

# Гадзіна Зямлі

**Штогод у передапошнюю суботу сакавіка чалавецтва аб'ядноўваецца ў сусветнай акцыі, мэта якой — фарміраванне экалагічнай культуры. Клопат пра агульны дом пачынаецца са свядомасці кожнага канкрэтнага чалавека: аднойчы далучаешся да акцыі, а потым разумееш, што трэба сачыць за ўласнымі крокамі, каб не знясільваць Зямлю і не парушаць гармонію. Акцыя, што ладзіцца з 2007 года, хутка атрымала падтрымку вялікай колькасці людзей у розных краінах свету. У 2009-м стала самай масавай акцыяй у гісторыі чалавецтва. Падтрымліваюць яе і жыхары Беларусі.**

19 сакавіка Мінск далучыцца да акцыі «Гадзіна Зямлі», якая пройдзе з 20.30 да 21.30.

Галоўныя праспекты Мінска — Незалежнасці і Пераможцаў — «пагаснуць» у час акцыі «Гадзіна Зямлі», паведаміў галоўны інжынер УП «Мінгарсвятло» Алег Глушанкоў карэспандэнту БелТА.

«У час акцыі наша прадпрыемства адключыць на двух сталічных праспектах архітэктурную падсветку жылых дамоў і аб'ектаў камунальнай уласнасці, — сказаў Алег Глушанкоў. — Мы інфармавалі аб правядзенні акцыі і ведамасныя аб'екты, рашэнне аб удзеле — за імі».

«Гадзіна Зямлі» — гэта міжнародная акцыя, у час якой Сусветны фонд дзікай прыроды заклікае выключыць святло і бытавыя электрапрыборы на адну гадзіну ў знак неабыякавага стаўлення да будучыні планеты. У гэты ж час гасне падсветка самых вядомых будынкаў і помнікаў свету.

Мэта мерапрыемства не ў тым, каб сэканоміць электрычнасць. Акцыя — гэта сімвал беражлівых адносін да прыроды. З году ў год яна прыцягвае ўвагу да неабходнасці адказнага стаўлення да прыроды. Сёння «Гадзіна Зямлі» — самая масавая экалагічная акцыя на планеце. У ёй прымаюць удзел больш як 2 млрд чалавек па ўсім свеце, звыш 170 краін і амаль 7 тысяч гарадоў.

Мінскі гарадскі камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя заклікаў жыхароў сталіцы, а таксама арганізацыі і прадпрыемствы Мінска далучыцца да глабальнай акцыі «Гадзіна Зямлі» і разгледзець пытанне аб адключэнні святла на 1 гадзіну з 20.30 да 21.30 19 сакавіка ў сваіх дамах, а таксама на рэкламных шчытах, пагасіць падсветку будынкаў, рэкламнае асвятленне тых аб'ектаў, дзе адключэнне святла не з'яўляецца крытычным.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Мікалая Кірычэнку з 70-гадовым юбілеем. Мікалай Кірычэнка ўнёс значны ўклад у развіццё, захаванне і ўзбагачэнне лепшых традыцый беларускага тэатра і кіно, гаворыцца ў віншаванні. «Дзякуючы Вашаму таленту на сцэне і на экране ўвасоблены яркія чалавечыя характары, якія заваявалі шчырае прызнанне шматлікіх паклоннікаў і калег», — адзначыў Прэзідэнт. «Няхай і далей Ваша невычэрпная творчая энергія дорыць радасныя хвіліны аматарам мастацтва, папаўняе скарбніцу культуры новымі цікавымі ролямі», — пажадаў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Расійскай Федэрацыі Ірыну Алфёраву з юбілеем. «Вы маеце яркі артыстычны талент, цудоўна валодаеце акцёрскім майстэрствам і праяўляеце выключную працаздольнасць. Дзякуючы гэтым якасцям Вам удалося стварыць галерэю запамінальных мастацкіх вобразаў. Сваёй творчасцю Вы заваявалі папулярнасць у гледачоў ва ўсім свеце, у тым ліку і ў Беларусі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што плённая творчая дзейнасць Ірыны Алфёравай і надалей будзе дарыць аматарам тэатра і кіно радасць і натхненне.

✔ XX Міжнародная спецыялізаваная выстаўка «СМІ ў Беларусі» пройдзе 11—14 мая і будзе прымеркаваная да 25-годдзя Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Пра гэта паведаміла міністр інфармацыі Лілія Ананіч падчас анлайн-канферэнцыі на тэму «Медыяасяроддзе Беларусі ў новых умовах» на сайце БелТА. «Выстаўка "СМІ ў Беларусі" — гэта ўнікальная прафесійная пляцоўка на постсавецкай прасторы», — падкрэсліла Лілія Ананіч. У краінах СНД падобныя маштабныя мерапрыемствы не праводзяцца. Беларусь захоўвае традыцыю ўжо 20 гадоў.

✔ Пасольства Беларусі ў Літве раслічвае ў найбліжэйшы час завяршыць узгадненне пытання аб устанаўленні памятнай дошкі народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу на адным з будынкаў літоўскай сталіцы. Паводле Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў Літве Аляксандра Караля, гэтую падзею плануецца прымеркаваць да 110-й гадавіны з дня выхаду першага легальнага перыядычнага выдання на беларускай мове «Наша доля», у якім быў апублікаваны верш Якуба Коласа «Наш родны край».

✔ Аляксей Грос, які будзе прадстаўляць Беларусь на Міжнародным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2016» падчас XXV Міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску», звярнуўся да суграмадзян з просьбай прапанаваць яму песню для выканання. Гэта могуць быць як аўтарскія вершы, на якія прадзюсар — айчынны кампазітар Леанід Шырын напіша музыку, так і творы беларускіх класікаў. Выканаўца і прадзюсар разгледзяць таксама прапановы ўжо гатовых кампазіцый.

✔ Столінскі раённы краязнаўчы музей, што на Брэстчыне, арганізуе ў Год культуры цыкл персанальных выставак народных майстроў «Творчая скарбніца Столінскага Палесся». Праект дасць магчымасць убачыць багацце і разнастайнасць творчасці палескага краю, раскрые яго самабытнасць. Штомесяц у музеі будзе працаваць персанальная экспазіцыя таленавітага майстра. Цяпер увазе наведвальнікаў прапануецца выстаўка Валянціны Лёгкай, якая займаецца вырабам эксклюзіўных лялек. Народныя строі для лялек майстар вырабляе пасля дэталёвага вывучэння гістарычнага і этнаграфічнага матэрыялу Століншчыны.

## Варта наведаць

# Караткевіч у Вялікім тэатры

Дваццаць дзявятага сакавіка ў Камернай зале Вялікага тэатра оперы і балета збяруцца папулярныя акцёры тэатра і кіно, вядомыя спартсмены, зоркі эстрады і тэлебачання. Вершы, урыўкі з мастацкай прозы, успаміны, песні на словы Уладзіміра Караткевіча прагучаць са сцэны тэатра ў выкананні алімпійскай чэмпіёнкі па гімнастыцы Любові Чаркашынай, актрысы тэатра і кіно Алены Дуброўскай, опернага спевака Ільі Сільчукова, сямейнага і творчага саюза — тэлевядучай, спявачкі Вольгі Рыжыкавай і эстраднага спевака Тэа. Рэжысёрам і вядучым вечара ўспамінаў выступіць заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Скорабагатаў.

Вечар складзецца з двух частак. У першай госці атрымаюць асалоду ад слова Караткевіча, а ў другой пакажуць оперу «Сівая легенда», у стварэнне якой сваё натхненне, талент і ідэі паклалі кампазітар Дзмітрый Смольскі і, зноў жа, пісьменнік Уладзімір Караткевіч (аўтар лібрэта). Падчас оперы гледачы ўбачаць таленавітых артыстаў: Сяргея Франкоўскага, Кацярыну Галаўлёву, Уладзіміра Пятрова, Аксану Волкаву і іншых. У антракце — конкурс на мастацкае чытанне твораў любімага пісьменніка. Усе жадаючыя змогуць працытаваць знакамітыя радкі па памяць альбо прачытаць, падглядаючы ў самаробную шпаргалку.

Арганізатары абяцаюць: праграма вечара ўспамінаў будзе насычанай і арыгінальнай, а аматары творчасці Уладзіміра Караткевіча атрымаюць добры настрой і яшчэ больш цікавых сюрпрызаў.

Уладзімір Караткевіч увайшоў у літаратуру як паэт, пасля пісьменнік праявіў сябе ў мастацкай прозе, публіцыстыцы, крытыцы, працаваў з дзіцячай літаратурай, займаўся перакладамі, значны ўклад унёс у развіццё нацыянальнай драматургіі і кінадраматургіі. Ён узбагаціў беларускую культуру інтэлектуальнымі і філасофскімі творамі пра гісторыю свайго народа, пра яго мастацтва, культуру, духоўнасць. Сёлета Уладзіміру Сямёнавічу споўнілася б 85 гадоў.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Бы закласці сад…

**Культурныя стасункі паміж Беларуссю і Таджыкістанам плённа развіваюцца. Беларусы знаёмяцца з народнымі традыцыямі, мастацтвам і літаратурай Таджыкістана, а крыху раней, напярэдадні XXIII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, чытачы таджыкскай літаратурнай газеты таксама праглядалі артыкулы, прысвечаныя беларускай культуры.**

На думку Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Таджыкістан у Беларусі Казідаўлата Каімдодава, тэматычны нумар беларускага «ЛіМа», прысвечаны краіне, увойдзе ў скарбонку абедзвюх літаратур і можа быць добрым падарункам да свята Наўруз у Душанбэ. Сустрэча з нагоды культурных узаемастасункаў Беларусі і Таджыкістана адбылася ў Выдавецкім доме «Звязда». Дырэктар установы Алесь Карлюкевіч распавёў пра тое, як літаратура Таджыкістана прадстаўлена ў беларускіх перыядычных выданнях і на партале «Сугучча», згадаў цікавыя факты пра ўзаемадзеянне літаратур. «Шмат імёнаў і лёсаў звязваюць Беларусь і Таджыкістан. Таджыкскі паэт Абдулькасіма Лахуці ў 1936 годзе ўдзельнічаў у пашыраным пленуме Саюза пісьменнікаў СССР, які праходзіў у Мінску. Тут творца пазнаёміўся з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Празаік Фатэх Ніязі знаходзіўся ў Беларусі падчас Вялікай Айчыннай вайны, быў супрацоўнікам франтавой газеты "Красноармейская правда" і неаднойчы звяртаўся да ваенных гадоў у сваёй творчасці», — распавёў Алесь Карлюкевіч.

Адказны сакратар часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка расказала аб працы над перакладамі паэта Парда Хабіба. Творчасць гэтага аўтара прывабіла шчырасцю эмоцый, зачараванасцю прыродай і жанчынай, ідэяй служэння Радзіме.

Спадар Казідаўлат Каімдодаў звярнуў увагу на неабходнасць падрыхтоўкі перакладчыкаў, якія б аднолькава добра валодалі таджыкскай і беларускай мовамі. Спецыялістаў можна рыхтаваць з ліку беларускай і таджыкскай творчай моладзі, бо ў Беларусі вучацца больш за чатыры ста студэнтаў з Таджыкістана. Нягледзячы на неабходнасць выдаткаў для арганізацыі навучання, дыпламат лічыць гэта неабходнай справай. «Каб атрымаць ураджай увосень, людзі штовесну выходзяць на сяўбу. Падрыхтоўка перакладчыкаў больш нагадвае закладку фруктовага саду. Варта аднойчы прыкласці намаганні, а потым доўга атрымліваць плён». Падчас сустрэчы высветлілася, што таджыкі, якія доўга жывуць у Беларусі, добра разумеюць беларускую мову — вось толькі размаўляць на ёй ім даволі складана.

2016 год адзначаны дваццацігоддзем усталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Таджыкістанам. Дні культуры Таджыкістана ў нашай краіне будуць чарговым сведчаннем развіцця творчага супрацоўніцтва.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Празаік, які стаў паэтам



## Паэт, які стаў казачнікам

Шырокаму колу чытачоў Павел Місько вядомы найперш як дзіцячы пісьменнік. Дый увогуле яго шлях у творчасці нетрадыцыйны, незвычайны: калі большасць калег пачалі сцвярджаць сябе праз паэтычнае слова і толькі ў сталым узросце перайшлі на прозу, то першымі творамі Паўла Андрэевіча былі якраз празаічныя кнігі. Нарысы, апавяданні, аповесці і раманы — усё пра сваё пакаленне, свой народ. І толькі стаўшы вядомым аўтарам, Павел Місько адкрыў у сабе паэтычны талент. На імпрэзе «Дрэва жыцця Паўла Місько» ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча якраз прагучалі яго вершы ў выкананні Галіны Дзягілевай, мастацкага кіраўніка тэатра «Зніч».

Талент дзіцячага пісьменніка праявіўся ў Паўла Місько ўжо ў сталым веку. Яго аповесць «Прыгоды бульбобаў» чыталі ледзь не ў кожнай савецкай сям'і. Цікава, што, пішучы кніжкі, дзе падзеі адбываюцца ў розных заморскіх краінах, пісьменнік ніколі не выязджаў за мяжу былога СССР — вывучаў жыццё па тэлевізійных перадачах і часопісах. Дачка пісьменніка Марына Сідаровіч згадала: ён выдатна разумеў дзіцячую псіхалогію, гуляў з дзецьмі ў лялечны тэатр, і гэтыя «акторы» былі для іх і сябрамі, і выхавацелямі.

Любоў да працы не дала пісьменніку зламацца падчас выпрабаванняў дзевяностых. У разгар эканамічнага крызісу (які супаў па часе з цяжкай хваробай і смерцю жонкі) ратавала сялянская загартоўка: не сядзець склаўшы рукі. Павел Андрэевіч плёў кошыкі і ў пераходзе каля ГУМа прадаваў.

Сярод запрошаных гасцей імпрэзы былі тыя, хто добра ведаў сям'ю пісьменніка з маладых гадоў: даследчык Міхась Кенька, паэт Анатоль Вярцінскі, фалькларыстка Наталля Матыліцкая, лепшы сябар пісьменніка, графік-акварэліст Іван Пратасеня. Да мерапрыемства прымеркаванае адкрыццё выстаўкі «Зямны вандроўнік Паўла Місько», матэрыялы для якой прадставілі з асабістага архіва дзеці пісьменніка Марына Сідаровіч і Віктар Місько: фотаздымкі розных гадоў, рукапісы, дакументы.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

### Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**22 сакавіка** — *на адкрыццё Тыдня дзіцячай літаратуры ў дзіцячую бібліятэку № 6 імя Васіля Віткі (вул. Лібкнехта, 98). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**22 сакавіка** — *на канцэрт духоўнай паэзіі і музыкі, які пройдзе ў межах Дзён праваслаўнай культуры ў Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (пл. Кастрычніцкая, 1, цокальны паверх Палаца Рэспублікі). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**23 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі ў публічную бібліятэку № 4 (вул. Лабанка, 22) з удзелам пісьменніц Іны Фраловай і Яны Явіч. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**23 сакавіка** — *на XXI Мінскія паэтычныя чытанні ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**24 сакавіка** — *на свята кнігі ў Маладзечанскую дзіцячую бібліятэку «Верасок» (Вялікі гасцінец, 121) і прэзентацыю кнігі Тамары Бунта «Белая аблачынка». Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**18 сакавіка** — *на сустрэчу дзіцячых пісьменнікаў з вучнямі школ г. Смалявічы ў Смалявіцкі гарадскі Дом культуры (г. Смалявічы, вул. Першамайская, 1). Пачатак у 11.00.*

**18 сакавіка** — *на паэтычную сустрэчу ў межах Тыдня дзіцячай кнігі ў Нясвіжскую цэнтральную раённую бібліятэку імя П. Пранузы (г. Нясвіж, вул. Беларуская, 5). Пачатак у 11.00.*

**21 сакавіка** — *на сустрэчу ў межах Тыдня дзіцячай кнігі ўдзельнікаў дзіцячага літаратурнага клуба «Ізяслаўцы» з сябрамі Мінскага абласнога аддзялення СПБ у Заслаўскай дзіцячай бібліятэцы (г. Заслаўе, вул. Савецкая, 96). Пачатак у 11.00.*

**22 сакавіка** — *на першыя занятк і вочна-завочнай школы для навучэнцаў Міншчыны «Сотворчество» пры Мінскім абласным аддзяленні СПБ (пл. Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

### Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:

**22 сакавіка** — *на сустрэчу з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка, прымеркаваную да Сусветнага дня паэзіі, у Віцебскую гарадскую бібліятэку імя Я. Купалы (г. Віцебск, вул. Пакроўская, 8). Пачатак а 14-й гадзіне.*

*Погляд*

# Незвычайнасць у знаёмым

Выставачны фотапраект «*INNERVISIONS*», які падарожнічае па свеце, стартаваў 10 сакавіка ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь (вул. Някрасава, 3). У аснове экспазіцыі — 4 персанальныя і 4 калектыўныя выстаўкі як дакументальнай у шырокім сэнсе, так і стрытфатаграфіі мастакоў з розных краін. Галоўная ўмова — адсутнасць пастановак і спантаннасць момантаў, адлюстраванне асяроддзя, дзе знаходзіцца чалавек: ад звычайнага панадворку да рынкавых шэрагаў. На многіх здымках адлюстравана не толькі імклівая плынь жыцця, канстатацыя фактаў, але і яркія метафары, вырваныя са штодзённасці, умелая гульня з колерамі і ракурсамі. «*INNERVISIONS*» — гэта не проста вернісаж, а цэлая адукацыйная пляцоўка для абмену вопытам. Так, у рамках праекта ўжо прайшлі творчыя сустрэчы з фатографамі, лекцыі, семінары па вывучэнні тэхнікі. Мікіта Ступін, напрыклад, распавёў пра такую з'яву, як сумленная фатаграфія (*straight photography*), паведаміў, якператварыць ідэю ў практыку, раскрыў псіхалогію вулічных фотаздымкаў. Гэты расійска-канадскі майстар, які з'яўляецца заснавальнікам крэатыўнай фотастудыі «*Moustache & Glasses*» («Вусы і Акуляры»), што «вызнае» чысціню фатаграфій — адсутнасць рэтушы, пастановак і змен у кампазіцыі.



*Арцём Жыцянёў, Масква, 2015 г.*

Іншы фатограф, Аляксандр Гроус, патлумачыў, чаму фатаграфія — гэта, з аднаго боку, смешны занятак, а з іншага — даволі сур'ёзны пошук унутранай і вонкавай прыгажосці свету, што кліча за сабой.

Кожны аўтар-удзельнік праекта на мове творчасці пастараўся адказаць на галоўнае пытанне: «Што такое сучасная дакументальная фатаграфія?». Усё залежыць ад таго, з якога ракурсу паглядзець. Дакументальнае фота можа быць крыніцай як інфармацыі, так і духоўнасці, сродкам зносін альбо прадуктам рэфлексіі, нечым асабістым, зборным партрэтам пэўнай часткі соцыуму ці сімвалам адной мясцовасці…




*Арцём Жыцянёў, Масква, 2009 г.*

«*INNERVISIONS*» — расійская ініцыятыва, мэта якой — даследаваць з'яву сучаснай фатаграфіі, вылучыць імёны мастакоў, якія заслугоўваюць увагі. Амаль ва ўсіх цяпер ёсць камеры — на смартфонах, планшэтах, у выглядзе звычайных «мыльніц» альбо аматарскіх люстэрак. Атрымліваецца так, што кожны можа назваць сябе фатографам. Сярод інфармацыйнага буму, бясконцых, падобных адзін да аднаго сайтаў-візітак, губляецца тое, на што варта звярнуць увагу, таму што яно іншае, непадобнае і змяняе нешта ўнутры.

Дзе ж мяжа паміж творамі мастацтва і, скажам, здымкамі камерцыйнага кшталту ці зробленымі проста дзеля напаміну, не абцяжаранымі сэнсавай і эстэтычнай нагрузкай? Адказ на гэтае пытанне — яшчэ адна задача ўдзельнікаў «*INNERVISIONS*».

На выстаўках прадстаўлены работы як прафесіяналаў, так і пачаткоўцаў. Аўтары персанальных экспазіцый — Аляксандр Слюсараў, Арцём Жыцянёў («Насельнікі»), Аляксандр Гроус («Гэта было выпадкова на Зямлі»), Андрэй Крашэніца (відэапраект «*RostovEveryDay*»). Нават назвы кажуць пра тое, што здымкі аб'яднаны не хаатычна. Гэта можа быць маленькі аповед пра аўтамабільны рух у Берліне сярэдзіны 1990-х гадоў ці замалёўка гарадскіх аб'ектаў Парыжа, такіх як тэлефон-аўтамат ці шыльды ў краме, што назіраюць за мінакамі праз шкло…

Магія непаўторнага імгнення праяўляецца на поўную моц, глядач побач з фатографам, нібы праз замочную адтуліну, назірае за людзьмі на месцы іх пражывання — тымі, хто адпачывае пад парасонам у спёку, лежачы на траве, чакае электрычку ці паліць на лаўцы ля пад'езда. Чалавека можа і не быць на здымку, але бачны яго след — галошы на тратуары, разбітыя вокны ці дзіўныя скульптуры. Чым такая фатаграфія цікавіць майстроў? Імправізацыяй! Ніколі не ведаеш, што чакаць ад вуліцы. Людзі пойдуць далей па сваіх справах, а здымак застанецца — гэта таксама важна. Тым больш фатограф дае магчымасць проста ісці, штосьці рабіць, быць самім сабой, не выконваць ніякіх роляў. Дзякуючы «*INNERVISIONS*» можна абысці палову Еўропы і Расіі, пазнаёміцца з жыхарамі розных краін, даведацца пра іх умовы жыцця, звычкі, нават характары. Але, на жаль, мы так і не ўбачылі, якая яна, фатаграфія нашых, беларускіх, вуліц. Можа быць, наступным разам?

**Марыя ВОЙЦІК**

*Штрыхі*

# Гродна

Далёкае полацкае дзяцінства. Мне сем гадоў. Не сплю ўсю ноч, бо ўпершыню ў жыцці разам з мамай і малодшай сястрой мушу ехаць на цягніку да роднай цёткі Веры ў Гродна… Цётухна жыла на самым рагу вуліц Савецкай і Ажэшкі. З чацвёртага паверха было відаць, як ходзяць па вуліцах мінакі, як праязджаюць рэдкія машыны і запрэжаныя конямі гаспадарчыя вазкі на гумовым хаду… Гродзенская брукоўка!.. Як мякка па ёй шоргалі шыны… Адшліфаваная, роўненькая, бы нейкі мяккі дыван, яна клалася вузкай стужкай, і па ёй хацелася ступаць босымі нагамі. А на Зялёным базары, куды мы хадзілі па прадукты, — водар спелай гародніны, зялёнай цыбулі і сакавітая беларуская гаворка… З тых часоў кожнае лета Гродна становіцца для мяне любімым месцам на ўвесь час канікулаў.

Помню, насупраць нашага дома, у падвальчыку мясной крамы, прадавалі піражкі з мясам. Нічога больш смачнага ў жыцці, здаецца, не еў. Вулкі горада, вузкія, брукаваныя, прыцягвалі рамантычнай загадкавасцю. Гэта потым, бываючы ў Еўропе, я ўзгадваў, што ўпершыню адчуў такую аўру менавіта ў Гродне.

У дзіцячай бібліятэцы на Савецкай я, чацвёртакласнік, напісаў сачыненне на конкурс «Я люблю Гродна», і мне ў Полацк па пошце прыслалі кніжку як аднаму з пераможцаў. Гэтую кніжку захоўваю ў хатняй бібліятэцы і цяпер.

Гродна… Заўсёды лічыў гэты горад сваім. Тут былі сябры ў двары, з якімі я ганяў у футбол і нават ледзь не стаў выхаванцам школы рэзерву «Нёмана», тут мы слухалі кружэлкі з Чэславам Неменам і Бітламі, тут я любаваўся велічнай Каложай і ўяўляў старадаўніх рыцараў у старым замку…

Сябры мне давялі, што, аказваецца, Чэслаў Немен — наш зямляк і нават вучыўся ў Гродзенскім музычным вучылішчы. Аяшчэмясцовымізоркамібыліфутбалісты Іван Ляцяга і варатар Прохараў, які прыехаў у Гродна з Масквы, дзе ён гуляў у дублі славутай сталічнай каманды. Пра тое, што ў гэты час у горадзе жылі Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк, я, безумоўна, не ведаў, ды і хто мне мог пра гэта расказаць, але пазней, чытаючы карпюкову «Дануту», я нібы вяртаўся на берагі Нёмана і цешыўся ўдзячнай памяццю.

Тут, у маленькіх кінатэатрах «Зорка» і «Спартак», якіх ужо цяпер няма, я глядзеў дзіцячыя фільмы і ўпершыню ў жыцці ўбачыў звяроў у заапарку… А першы паход у тэатр! Старадаўні будынак, масіўныя крэслы, заслона… Ішоў спектакль «Барабаншчыца» пра бясстрашную падпольшчыцу Нэлу Сняжко. Постаць гэтай актрысы, яе голас стаяць перад вачыма і сёння, хоць прайшлі дзясяткі гадоў.

Вера, а мы з сястрой звалі яе па імені, бо яна была прыгожая і маладая, мусіла часам ездзіць у камандзіроўкі па вобласці, і я заставаўся ў яе пакаёўку на пару дзён адзін. Якая гэта была асалода! Спі колькі хочаш, а прачнуўшыся, можна было ўзяць са сціплай этажэркі чытанага і перачытанага Жуль Верна, Бусінара (цётка таксама любіла такую літаратуру), а потым пайсці да сяброў у двор… Цётка потым захварэла і пераехала жыць да нас у Полацк, і ў Гродна я ездзіць перастаў ажно да дарослых гадоў. Горад змяніўся, і я не адразу пазнаў па прыездзе такія дарагія знаёмыя мясціны. Але ўсё роўна, калі выдаецца выпадак, каб паехаць у Гродна, адчуваю, як у душы ўздымаецца шчымлівая хваля цеплыні і пяшчоты…

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

*Дайджэст*

• Абвешчаны лонг-ліст міжнароднай Букераўскай прэміі-2016 за лепшы мастацкі твор, перакладзены на англійскую мову. Сёлетні конкурс адметны тым, што ў ім удзельнічае забароненая літаратура, а таксама творы ананімных аўтараў. Адзін з іх выступае пад псеўданімам Алена Ферантэ. Большасць схільныя лічыць, што гэта мужчына: пра тое сведчыць спецыфіка твораў (серыя «Неапалітанскія хронікі»). Гэтым разам да прэміі прадстаўлены новы раман з гэтай серыі «Гісторыя страчанага дзіцяці». Нобелеўскі лаўрэат Архан Памук прапануе раман «Дзівацтвы ў маёй галаве», Кендзабуро Оэ — сваю 16-ю па ліку кнігу «Смерць у вадзе». Азію ў лонг-лісце прадстаўляюць паўднёвакарэйская пісьменніца Хан Канг з раманам «Вегетарыянец», інданезійскі аўтар Эка Курніяван («Чалавек-тыгр») і кітаец Юн Лянка. Усяго ў спіс увайшлі 13 кніг, а шэсць твораў шорт-ліста абвесцяць 14 красавіка. Кожны пісьменнік, які ў яго патрапіць, атрымае 1000 фунтаў. Лаўрэата абяруць 16 мая. Прыз памерам 50 000 фунтаў падзеліцца пароўну паміж аўтарам і перакладчыкам кнігі.

• Англічанін знайшоў на гарышчы свайго дома невядомы твор Конан Дойля: у кнізе, выдадзенай на пачатку XX стагоддзя, знаходзіўся нідзе раней не публікаваны аповед пра прыгоды Шэрлака Холмса. Пакуль нельга сказаць напэўна, ці належыць гэты твор пяру Конан Дойля: літаратуразнаўцы яшчэ не правodзілі даследаванне тэксту. Аднак гаспадар знаходкі нагадвае, што ў знойдзеным ім зборніку, які выпускаўся ў дабрачынных мэтах, на апошніх старонках прыведзены імёны тых, хто ўдзельнічаў у акцыі. І сярод іх — Конан Дойль. Брытанец таксама распавёў, што шмат гадоў таму набыў гэтую кніжку на мясцовым блышыным рынку, а, прачытаўшы яе, выкінуў на гарышча. Ён збіраецца адкрыць доступ да нечакана адкрытага скарба іншым кнігалюбам, але толькі для таго, каб яны маглі паглядзець на рэдкі асобнік.

• Надзвычайнае здарэнне адбылося ў бібліятэцы Пецярбургскага ўніверсітэта. У адным з памяшканняў, што знаходзяцца на верхніх паверхах, прарвала трубу, і плыні вады зрынуліся на стэлажы з каштоўнымі выданнямі. У выніку патопу заліло каля трох тысяч кніг, выдадзеных яшчэ ў XIX стагоддзі. Кіраўніцтва бібліятэкі паведаміла, што шкода, учыненая выданням, не сталася катастрафічнай: ніводная кніга не страчаная незваротна. Хутка пачнуцца аднаўленчыя работы, даверaныя спецыялістам-рэстаўратарам. Пасля заканчэння неабходных працэдур кнігі вернуцца на свае законныя месцы.

• Экранізуецца яшчэ адзін твор Стывена Кінга. «Цёмная вежа» знакамітага пісьменніка-фантаста, аўтара многіх трылераў і жахаў, напісаная ў 2004 годзе і апублікаваная ў той жа год, у дзень нараджэння Кінга 21 верасня. Экранізацыяй «Цёмнай вежы» былі зацікаўленыя працяглы час многія кінакампаніі, і сёлета працэс зрушыўся з мёртвай кропкі. Рэжысёрам выступіць Нікалай Арсель, найбольш вядомы сцэнарыем да «Дзяўчыны з татуіроўкай дракона» 2009 года. Галоўныя ролі атрымалі аскараносны Мэцью Маконахі і Ідрыс Эльба, уладальнік Залатога глобуса. Кіраваць кінапрацэсам будзе кінастудыя Sony, якая паведаміла пра запланаваную дату выхаду «Цёмнай вежы»: 13 студзеня 2017 года.

Антон РУДАК



## аўтаінструкцыя

не пакідай за сабою дарогі назад
часта вярнуцца складаней чым
рушыць наперад
рэзкі ўдар сярод трасы па тармазах
не пакідае шанцаў праравацца
на іншы бераг

не пакідай без нагляду сваіх віроў
рыбаў у глыбіні птушак паміж аблокаў
пушчаў палёў зуброў і астатніх звяроў
ровараў грузавікоў трактароў
матаблокаў

цэркваў і замкаў вёсак і гарадоў
песняў і казак здымкаў лістоў успамінаў
нават калі па іх не засталося слядоў
нават калі лёс нічога ад іх не пакінуў

у выніку шэрагу папераменных
поспехаў і параз
у вечнай вайне паміж кепскім
і штораз горшым
не пакідай суцяшаць сябе тым
што ўсё гэта не ў першы раз
зрэшты і з гэтым таксама
не перабольшвай

не азірайся на тых хто застыў
пры дарозе стаяць слупом
у гэтай гульні не разлічваючы
на выйгрыш
не пакідай намаганняў ісці самастойна
і насупор
помні пра тое што ты на сабе пакінеш
як пакідае пісьменнік музыка мастак
літарамі на паперы фарбамі
на мальберце
сімвалы веры надзеі любові як знак
усяго чаго нельга пакінуць вось так
каб не ўмерці

## калыханка

Сон ніяк не бярэ, хоць стома
агарнула яшчэ пад вечар?
Паратунак даўно вядомы:
можна доўга лічыць авечак.

Супакойся, заплюшчы вочы —
бо разгадка тваёй таямніцы
дужа простая: сёння ўночы
ты не спіш, каб камусьці
сніцца.

## музыка ў паветры

з вечаровых сеансаў паддатыя
кінамеханікі
прыходзяць дахаты адначасова
з каровамі
трамваі ўначы звіняць на аціхлых
ускраінах
дзе глебу раз-пораз разорваюць
шматпавярховікі

час забірае голас змывае колеры
на чорна-белую стужку няўмольна
шчоўкае
сябры і ворагі звыкла мяняюцца ролямі
і бамбасховішчы робяцца
танцпляцоўкамі

пара надыходзіць збіраць камяні
спатыкання
і наўзамен руінаў пакінутых бомбамі
каб не пазбыцца набытых нядаўна
навыкаў
героі падполля гурмою супольна
з палоннымі

адпаведна з усімі правіламі маскіроўкі
будуюць кардонны горад блытаюць
карты
каб вайна калі нават і вернецца ўжо
не здолела
пазнаць тыя самыя вуліцы і заблукала

Таццяна МАЦЮХІНА



## Вера і мужнасць

Гэты год нясе з сабой паволі
Нам свае прыгожыя дары.
Ці адчую значнасць тваёй волі?
Ці пачую слова «ваяры»?
У цябе я веру без прычыны,
А гадзіннік не спыняецца для нас…
Ёсць на свеце рыцары-мужчыны,
У душы якіх агонь не згас
І якія з мужнасцю праходзяць
Праз іспыты смерці і жыцця.
«Ганаруся і люблю Айчыну», —
Словы, што пачую сёння я.

## Радасць сэрца

У бязмерным захапленні
я шукаю цуды свету.
У адценнях твайго ценю
На малюнку словы: «Дзе ты?»
Бор спявае
на світанку.
У лесе ціўкае
сініца.
А вішнёвы колер кветак
Уначы мне толькі сніцца?!.
Лось брыдзе па сцежцы ціха.
Ля крыніцы прыпынюся.
Я гукаю радасць сэрца.
Я жыву. І я малюся
цудам свету…

## Credo

Я жыву, бо Вечнаму малюся.
Я ў пошуку, але не адхінуся:
не аддам сваю надзею скнарам,
калі нават боль спазнаю рана..

Не змаўчу, калі вакол пустэча,
здрада, зло — духоўная галеча.
Ў цішыні святыням памалюся
і ніколі злосці не скаруся.
Я жыву…

## Прызнанне ў думках

У позірку магчыма прачытаць
Жаданні, мары, годныя намеры.
А я хацела б толькі прыгадаць
У вачах тваіх адзнакі Боскай веры.
А я хацела б зоркі запаліць
На небе сінім,
калі толькі днее.
І ўсе пакуты сэрца
замаліць
любоўю сонца, іскрамі надзеі…

Марыя ДЗМІТРАНОК



Паэтэса, член літаб'яднання «Дняпроўскія галасы». Скончыла БДУ, працавала настаўніцай, 16 год кіравала ўзорнай Школай паэзіі «Лотас» у Оршы. Выступіла як укладальнік 52 калектыўных і 36 індывідуальных зборнікаў паэзіі. Аўтар 10 індывідуальных зборнікаў паэзіі.

# Жанчына ў сусвеце

## ***

«У адзіноты столькі хараства!» —
Між кветак палымнелі твар і рукі...
«У адзіноты столькі хараства!» —
І крышталі духоўнага раства
Да вуснаў пасылалі сэрцаў гукі.

І тыя, каб агонь душы не згас,
Шапталі ледзь чутно: «Цябе кахаю...»
І тыя, каб агонь душы не згас,
Таемна благаслаўлялі лёсу час
За шчодрае, як сонца, «дарагая...»

Святло і ноч — і дум узнёслы хор:
«Мой свет, мой кліч, надзея і знямога...»
Святло і ноч — і дум узнёслы хор
Пяшчотна свае крылы распасцёр,
Каб веру і любоў дамчаць да Бога.

Ён іх прыняў і лёсу адпусціў
Маўчання грэх — бязлітаснасць палону.
Ён іх прыняў і лёсу адпусціў
Натхненне, роздум, розум і парыў
Вачэй і сэрцаў — радасцей улонне.

Усмешкі ў бараду пускае Кон,
І водгук іх да нас прыносіць Фенікс.
Усмешкі ў бараду пускае Кон —
І гэты свет і непазбежны скон —
То Вечнага Кахання толькі цені.

## Сусвет і я

Я Цэлы Сусвет. Жывое ўва мне,
Вядомае і невядомае,
Успомніцца, сцісне, прымусіць, кране
Без даўнасці ўзлётам ці стомаю.

Як блізка сляды. Адлегласць і час
Не маюць улады над існасцю.
Усё пранікае ў збянтэжаных нас,
Сваёй назначае карыснасцю —

Мы бачым назад: трымае наш змест…
А ўперад — падзеі прадбачанне!

Яно — наша Самбала! Быў хто?
Ці фэст
Галоўней? І сілы растрачаны…

Я Цэлы Сусвет, а Ён — гэта Я!
Паўтор у стагоддзях — прастрацыя.
Адбыцца патрэбна, ёсць роля свая,
Свая на жыццё адукацыя!

…І возьмецца Меч: Свядомасць вядзе
Сусвет па шляхах Эвалюцыі,
Нікому мяне не парушыць, нідзе
Няма для мяне канстытуцыі;

Ёсць смага Любві: жывых не прадаць,
Узрушыць да нерва драбнейшага;
Бярыце Сусвет — сэнс у тым,
каб аддаць
Для явы народа Тутэйшага!..

…І сеецца хлеб, уздымаецца дол
Насустрач зярнятку духмянаму,
Бо смак унутры, знешнасць толькі
касцёл
Для Шляху — Жыцця Палымянага.

## Агняцвет улюбёных

За шчодрасць патаемную
Ўлюбёны свет заўжды.
Змяняюцца гады,
А сціпласць — пераемнае,

Каштоўнасць неад'емная,
Як жар у халады.
За шчодрасць патаемную
Ўлюбёны свет заўжды.
А йшчэ калі ўзаемная,
Дык ужо рай тады,
Бы майскія сады
Пахучыя — прыемная!
За шчодрасць патаемную
Ўлюбёны свет заўжды.

## Каханне…

Каханне
Ў святочным убранні
Пастукае ў сэрца, і чуецца,
Як соладка льецца світанне,
Як сонца спусціцца рыхтуецца,

Як вабіць азёрнае ззянне,
Як кветкі у росах мілуюцца,
Як хочацца свету спазнання
І як усім светам будуецца
Каханне.
Ўсё ладна, з памкненнем стасуецца,
Ўсё ў нейкім узвышаным стане,
Ўвайшоўшы ў істоту, красуецца
Адзінае толькі жаданне
Кахання...



Фота Кастуся Дробава.

# Лялька

*Навукова-фантастычнае апавяданне*



Сяргей БЕЛАЯР

Тэлефон на стале выбухнуў трэллю, калі Мікша Будрэлін ужо збіраўся зачыніць кантору і нарэшце адправіцца дадому. Павагаўшыся імгненне, механік вярнуўся і зняў слухаўку.

— Рамонтная майстэрня «ІП Будрэлін». Слухаю вас!

— Добры вечар! — пачуўся на тым канцы провада ўстрывожаны мужчынскі голас. — Мне трэба адрамантаваць кібернетычную ляльку. І як мага хутчэй!

— Адну хвіліну! — Будрэлін апусціўся ў крэсла і выцягнуў з верхняй шуфляды бланк, пасля чаго падрыхтаваўся запісваць. — Якой серыі ваша мадэль?

— Сёмая... — суразмоўца задумаўся, каб неўзабаве выправіцца: — Не, сёмая, біс. Так, сапраўды, сёмая, біс.

— Ого! — не здолеў стрымаць сваіх пачуццяў механік. І нядзіўна: шкілеты лялек сёмай мадэлі выраблялiся з высокатрывалых тытанавых сплаваў, скура і мышцы — з гіпаалергеннага эластычнага сілікону, навобмацак неадрознага ад сапраўднай скуры, а валасы былі натуральнымі. Лялька магла самастойна рухацца і падтрымліваць гутарку: мадэлі абсталёўваліся штучным інтэлектам. Натрыйіонныя акумулятары дазвалялі забыцца пра падзарадку амаль на дзесяць сутак.

Каштавала такая лялька шмат. Будрэлін пра яе не адважваўся і марыць. Занадта дорага атрымлівалася нават пры яго ўзроўні даходаў. Можа быць, з часам...

— У інтэрнэце пра вас толькі станоўчыя водгукі. Я гатовы заплаціць вам двайны тарыф — толькі адрамантуйце Крысціну!

— Скажыце мне вашыя імя і прозвішча.

— Пурвянец. Дзібут Пурвянец.

— Па якім адрасе пражываеце?

— Каштанавая алея, дом чатырнаццаць, кватэра восем. Уваход са двара: рабочыя рамантуюць фасад, і парадны зачынены. Дамафон адключаны, кансьержа няма.

— Картка або наяўныя? — удакладніў Будрэлін. Як правіла, тыя, хто разлічваўся наяўнымі, пакідалі шчодрыя чаявыя.

— Толькі наяўнымі.

— Я заеду да вас праз чвэрць гадзіны. — Суботнім вечарам рух у горадзе быў не такім ажыўленым, як у будныя дні.

— Выдатна! — узрадаваўся мужчына. — Чакаю!

Будрэлін узяў чамаданчык з інструментамі і спусціўся на вуліцу, да прыпаркаванага ў квартале ад канторы «бэушнага» мікрааўтобуса, які механік набыў толькі сёння раніцай, яшчэ не паспеў нанесці на фургон фірмовы лагатып. Дагэтуль дабірацца да кліентаў даводзілася альбо пешшу, альбо грамадскім транспартам.

Весела насвістваючы апошні шлягер, Будрэлін уліўся ў транспартны паток. Сваю працу механік любіў: і даход, і маральнае задавальненне. Прафесія запатрабаваная: з кожным годам колькасць тых, хто мяняў жывыя зносіны на сустрэчы з робатамі і андроідамі, толькі ўзрастала.

На шчасце, непадалёк ад дома пад нумарам чатырнаццаць — цаглянага будынка ў пяць паверхаў у акружэнні будаўнічых лясоў і высокіх каштанаў — знайшлося вольнае месца для мікрааўтобуса. Кастрычніцкі вечар ужо ўступіў у свае правы. Вулічныя ліхтары на ажурных каваных слупах стваралі своеасаблівую атмасферу, якую размалёўвала яркімі фарбамі апалае лісце, што шамацела пад чаравікамі.

Стараючыся не выпацкацца, механік абышоў будынак і, пакінуўшы ззаду смеццевыя бакі, пацягнуў дзверы чорнага ходу. Як і казаў кліент, яны аказаліся незачыненыя. Кватэра размяшчалася на трэцім паверсе. Да паслуг жыхароў меўся ліфт, але Будрэлін падняўся пешшу. Гэта дазваляла атрымаць немалое задавальненне ад прадчування сустрэчы з сапраўдным цудам. Ды і пра здароўе забываць не трэба было, бо праца механіка кібернетычных лялек асаблівых фізічных нагрузак не прадугледжвала.

Дзверы аказаліся дыхтоўнымі, з пазалочанай таблічкай, на якой былі пазначаны прозвішча, імя і імя па бацьку гаспадара кватэры. Будрэлін паведаміў пра сваё прыбыццё, націснуўшы на кнопку званка. Замок пстрыкнуў практычна адразу, прымушаючы падазраваць, што Пурвянец вартаваў за дзвярыма.

— Спадар Будрэлін, наколькі я разумею? — механіка сустрэў карантышка гадоў сарака. Крысы вычварна дарагога халата з цяжкасцю ўтрымлівалі абʼёмны жывот. Залаты ланцуг на шыі, залатыя пярсцёнкі на пальцах абедзвюх рук і крывыя валасатыя ногі дапаўнялі карціну. Кліент быў на падпітку, мяркуючы па паху марачнага віна.

— Так, — кіўнуў механік, ловячы сябе на тым, што Пурвянец выклікае ў яго антыпатыю. Ірацыянальную ўжо ў сілу таго, што кліенту патрабавалася дапамога Будрэліна. Давялося прымусіць сябе ўсміхнуцца.

— Праходзьце, — кліент прапусціў механіка і зачыніў за ім дзверы.

Чатырохпакаёвая кватэра была абстаўленая багата, але зусім безгустоўна. На погляд Будрэліна, збіралася ўсё не для сябе, а для таго, каб уразіць заможных гасцей. Зрэшты, асабістае жыццё кліентаў механіка не цікавіла. Галоўнае, каб яны плацілі грошы і рэкамендавалі яго сваім знаёмым.

— Сюды! — Пурвянец правёў Будрэліна ў спальню, дзе на шырокім двухспальным ложку ляжала лялька. Нават дэмакратычныя джынсы і топ не маглі схаваць дасканаласці яе фігуры.

— Сёмая біс, эксклюзіў! — захоплена вымавіў механік. Усё павярнулася куды лепш, чым ён чакаў. — Што з ёй здарылася, спадар Пурвянец?

— Яна проста перастала працаваць, — патлумачыў кліент, разводзячы рукамі.

— Мадэлі гэтай серыі, ды яшчэ і з прэфіксам «Эксклюзіў» занадта дасканалыя для таго, каб беспадстаўна ламацца, — зазначыў Будрэлін, высілкам волі пераводзячы погляд з лялькі на кліента. — Вы яе часам не кідалі галавой аб падлогу?

— Ды вы што? — спалохаўся Пурвянец. — Як можна?

— Праблем з акумулятарнай батарэяй ніколі не было? — механік прысунуў да ложка крэсла і, паставіўшы на яго чамаданчык, пачаў перабіраць інструменты.

— Не, — адмоўна закруціў галавой кліент. — Зарад трымае добра. Апошні раз зараджаў крыху больш як суткі таму.

— Праграмнае забеспячэнне ліцэнзійнае?

— Натуральна! — фыркнуў Пурвянец, як быццам Будрэлін абразіў яго ў лепшых пачуццях.

— Хто-небудзь са староннiх мае доступ да Крысціны?

— Яшчэ чаго! — ажно пачырванеў кліент. — Гэта мая ўласнасць, і я не збіраюся яе ні з кім дзяліць!.. Вы будзеце ляльку рамантаваць або дурныя пытанні задаваць?!

— Я ўжо прыступіў да рамонту, спадар Пурвянец. З вашага дазволу! — Механік зняў з лялькі джынсы і топ. Ад дотыку да рукі Крысціны Будрэлін тузануўся, як ад удару электрычным токам.

Густу ў кліента не было зусім. Вось толькі ўслых Будрэлін казаць нічога не стаў, бо занадта моцна даражыў сваёй рэпутацыяй. Адно неасцярожнае слова магло паставіць крыж на яго карʼеры.

— Мабыць, пачну з праверкі штучнага інтэлекту, — механік уставіў штэкер у гняздо за левым вухам лялькі і актываваў графічны карыстальніцкі інтэрфэйс. — Давядзецца крыху пачакаць!

Пурвянец пацiснуў плячыма, але не прапанаваў Будрэліну ні гарбаты, ні кавы. Размясціўшыся ў крэсле, ён закурыў, нават не падумаўшы спытаць у механіка дазволу.

— Тут усё ў парадку, — рэзюмаваў Будрэлін праз тры чвэрці гадзіны, на працягу якіх кліент усяляк дэманстраваў сваё нецярпенне. А механік не спяшаўся: яму падабалася глядзець на Крысціну. Было ў формах кібернетычнай лялькі нешта такое, што прымушала сэрца біцца хутчэй. — Зараз праверу акумулятарную батарэю. Калі праблема не ў ёй, пратэсцірую апорна-рухальны апарат.

Пурвянец, зрабіўшы незадаволены твар, зноў закурыў. Яму і ў галаву не прыйшло хоць бы прачыніць акно. Пад столлю віліся клубы цыгарнага дыму.

— Вы чулі пра Пігмаліёна і Галатэю, спадар Пурвянец?

— Не маю ніякага ўяўлення. — Сказана гэта было тонам, які не пакідаў сумнення ў тым, што кліент зусім не гарыць жаданнем пачуць легенду. Нечакана для самога сябе Будрэлін сказаў:

— Пігмаліён, цар Кіпра, быў спрытным у скульптуры. Аднойчы ён вырашыў выбіць з мармуру статую найпрыгажэйшай дзяўчыны, якой трызніў. Многія дні і ночы Пігмаліён не выходзіў з майстэрні, нібы сапраўды спяшаўся вызваліць дзяўчыну з палону ўласных фантазій...

Акумулятарная батарэя аказалася спраўнай, і Будрэлін усталяваў на трыногу партатыўны рэнтгенаўскі сканер на аснове зваротнага рассейвання.

— Не хвалюйцеся, выпраменьванне цалкам бяспечнае для здароўя! — запэўніў механік і працягнуў аповед. — Дасведчаныя рукі Пігмаліёна стварылі скульптуру такой рэдкай прыгажосці, што ні адна са смяротных жанчын не ішла ні ў якое параўнанне з тварэннем цара. Пігмаліён даў ёй імя Галатэя, апрануў у беласнежныя строі ды пасадзіў побач з сабой на трон. Не жадаючы, каб такая незямная прыгажосць заставалася неадушаўлёнай, Пігмаліён пачаў прасіць багіню Афрадыту ажывіць статую. Цар быў закаранелым халасцяком, і Афрадыта, узрадаваная, што Пігмаліён таксама зрабіўся ахвярай жарсці, вырашыла выканаць яго просьбу...

— Вельмі цікава, спадар Будрэлін, — не вытрымаў Пурвянец. — Я толькі не магу зразумець: навошта вы распавялі мне гэтую казку?

— Я вам зайздрошчу: вы ж можаце штодзень атрымліваць асалоду ад сапраўднага твора мастацтва!

— Ды кіньце, — адмахнуўся кліент. — Гэта ўсяго толькі лялька. Бяздушны механізм… Але яна падкрэслівае мой сацыяльны статус.

— Не, спадар Пурвянец. Крысціна — ніякая не лялька, а квінтэсэнцыя, ідэал, які ўвабраў у сябе вялікую творчую сілу, засяроджаную ў прыродзе. Гэта сама дасканаласць!.. Заўсёды зайздросціў тым, каму па сілах стварыць нешта падобнае.

Механік злавіў на сабе баязлівы позірк кліента — Пурвянец відавочна шкадаваў, што запрасіў Будрэліна. Аднак даваць задні ход не спяшаўся: кваліфікацыя іншых майстроў была ніжэйшай. Усё ўпіралася ў грошы. Ды і нават з захаваннем усіх індывідуальных наладак новая лялька будзе толькі копіяй, а гэта балюча ўдарыць па самалюбстве.

На дысплеі ноўтбука ішла павольная пабудова абʼёмнай мадэлі.

— Ну што? — кліент заняў месца за спіной механіка, абдаўшы яго задушлівай сумессю віна, тытуню і поту.

— Цярпенне, спадар Пурвянец! — паморшчыўся Будрэлін, не маючы магчымасці адхіліцца. — Яшчэ некалькі хвілін, і стварэнне трохмернага малюнка завершыцца.

— Тады мы нарэшце атрымаем адказ?

«І чаму ўсё добрае заўсёды дастаецца не тым, хто гэтага рэальна заслугоўвае, а такім, як гэты?!» — падумалася механіку. У грудзях ускалыхнулася злосць. Будрэлін зрабіў некалькі глыбокіх удыхаў, аднак гэта не дапамагло.

— А хутчэй ніяк нельга? — не сунімаўся Пурвянец. Ён як быццам паставіў перад сабой задачу вывесці Будрэліна з сябе.

— Усё залежыць ад таго, хочаце вы атрымаць якасна зробленую працу ці ж халтуру, спадар Пурвянец, — адказаў механік, не адрываючыся ад дысплея. Цэласнасць шкілета і знешняя абалонка пашкоджаны не былі.

Кліент прабурчэў нешта пра непаваротлівасць некаторых і пайшоў наліць сабе віна. Па вяртанні ў пакой Пурвянец пачаў мераць яго крокамі. Толькі выхаванне не дазволіла Будрэліну папрасіць кліента спыніцца — безупынная мітусня перашкаджала засяродзіцца.

У самы разгар пабудовы абʼёмнай мадэлі сам па сабе ўключыўся гукавы сінтэзатар, і сказаныя кібернетычнай лялькай чатыры словы выклікалі ў душы механіка сапраўдную буру эмоцый. Ніколі раней Будрэліну не даводзілася чуць настолькі меладычны голас. На жаль, чатырма словамі маналог Крысціны і абмежаваўся.

— Я заплаціў за гэтую чортаву ляльку варʼяцкую плойму грошай! — успыліў Пурвянец. — І маю права разлічваць на тое, каб яна ніколі не ламалася!

— Ні адзін механізм не можа працаваць вечна.

Будрэлін паглядзеў праз плячо: аказваецца, кліент прынёс з кухні поўную бутэльку віна і цяпер важдаўся са штопарам, спрабуючы яе адкаркаваць.

— Толькі і ўмеюць, што грошы здзіраць! — корак з хлапком вылецеў з бутэлькі. Пурвянец разраздзіўся лаянкай: барвовыя, падобныя да крыві кроплі абдалі халат і яго самога.

— Божа! — ахнуў механік, калі праграма стварыла канчатковы трохмерны вобраз. — Як можна так усё запусціць?.. Вы што, зусім не клапаціліся пра ляльку?.. У наборы ж ёсць камплект па доглядзе!

Адсутнасць змазкі ў шыйных сегментах Крысціны прывяла да іх заўчаснага зносу і блакіравання сігналу ад цэнтральнай працэсарнай прылады. Ляльку нібы разбіў параліч.

— Гэта ж злачынства — так нядбайна абыходзіцца з творам мастацтва! — не вытрымаў Будрэлін.

— Крысціна — мая ўласнасць, — ікнуўшы, нагадаў Пурвянец. — Што захачу, то з ёй і зраблю. Магу ў агонь кінуць, магу ўтапіць, магу разбіць кувалдай!

— Вы вырадак! — грэблівае стаўленне да шэдэўра чалавечай думкі прымусіла механіка схапіць з прыложкавай тумбачкі першае, што трапілася пад руку — вуглаватую дызайнерскую вазу, — і абрынуць яе на галаву кліента.

Удар атрымаўся моцным: тоўстае шкло разляцелася на мноства аскепкаў. Пурвянец кулем паваліўся на падлогу. Дыван заглушыў шум падзення цела…

Насуперак чаканням, смерць Пурвянца не выклікала ў Будрэліна ніякіх асаблівых пачуццяў. Ён толькі падумаў пра тое, што цемра за вокнамі і безаблічны мікрааўтобус стануць яго памочнікамі — трэба пазбавіцца ад трупа і як хутчэй звезці адсюль Крысціну. З гэтага часу лялька будзе належаць толькі яму аднаму.

Не ў сілах даць сабе рады, механік правёў далонню па твары лялькі: Крысціна каштавала таго, каб дзеля яе забіць.

# «Больш святла!»

Аглядаючы паліцы з сотнямі тамоў мастацкай літаратуры, у вялікіх бібліятэках і прыватных кнігазборах, часта ловіш сябе на думцы: колькі сіл укладзена ў гэтыя творы, у некага яны забралі жыццё карпеннем над многімі і многімі старонкамі, камусьці з уважлівых чытачоў яны дапамаглі, а некага пазбавілі спакою… Мастацкая літаратура па-ранейшаму пераварочвае свядомасць чытачоў, з'яўляецца складнікам сацыяльнага і нават палітычнага ўладкавання жыцця. Так, нават цяпер, калі ў большасці пісьменніцкая праца не прыносіць матэрыяльных выгод, больш за тое — апантанага і шчырага творцу вядзе да беднасці, поўнай нішчымніцы, нават жабрацкага існавання.

Яўген Гарадніцкі, удумлівы крытык і літаратуразнаўца, сваёй манаграфіяй «Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць» у чарговы раз спрабуе паказаць літаратуру як складнік агульнамастацкага культуратворчага працэсу, паказаць у цесным узаемадзеянні з іншымі відамі мастацтва. Вось што піша крытык на «Уводзінах»: «За шматвяковую гісторыю існавання мастацкай літаратуры да асэнсавання гэтага феномена падыходзілі па-рознаму, шукаючы адказ на пытанне: што ж гэта такое — літаратура?

Пры мностве магчымых варыянтаў адказу на гэта пытанне, здаецца, так і не знойдзены асноўны, які задавальняў бы ўсіх і ўлічваў бы ўсе аспекты.

> *Мы следам за крытыкам, літаратуразнаўцам спрабуем разабрацца, якой жа была дарога ад задуманага да ўвасаблення. І яшчэ з падказкі Я. Гарадніцкага зазіраем у характар мыслення паэтаў і празаікаў, задумваемся над тым, як сёння спрацоўваюць мастацкія ідэі, вынайдзеныя і Я. Купалам, і А. Куляшовым, і М. Танкам многія дзесяцігоддзі назад.*

З чым звязаны гэтыя цяжкасці? Па-першае, мабыць, са шматаблічнасцю і шматстайнасцю праяў літаратурнага феномена. Па-другое, думаецца, з тым, што недастаткова ўлічваецца яго мастацкая прырода, той факт, што літаратура — гэта адзін з відаў мастацтва, пэўнымі сутнаснымі характарыстыкамі падобны да іншых відаў, а сваімі спецыфічнымі прыкметамі — адрозны ад іх…».

Першы раздзел — «Камунікатыўнасць». Аўтар на прыкладзе творчасці добра вядомых пісьменнікаў-класікаў зазірае ў сутнасны змест мастацкай камунікатыўнасці. Даводзіць да чытача сваё бачанне механізма асэнсавання мастацкага твора, важкасць яго прачытання ў кантэксце рэальнага жыцця, гістарычных прасцягаў, у кантэксце мастацкай культуры і грамадскай думкі. Хіба ж не задумваемся мы над тым, што менавіта хацеў сказаць пісьменнік тым ці іншым сваім творам? І за кошт чаго, якіх мастацкіх сродкаў ён здолеў давесці да нас і праз дзесяцігоддзі альбо нават стагоддзі тую ці іншую ісціну? Такія падраздзелы, як «А. Куляшоў — прадаўжальнік класічных традыцый», «Ракурсы паэтычнага светабачання ў творах Максіма Танка», «Гарманічнае і стыхійнае ў паэтыцы Янкі Купалы», — свайго роду мастацкія ліхтары ў свет зносін пісьменніка з рэчаіснасцю. Мы следам за крытыкам, літаратуразнаўцам спрабуем разабрацца, якой жа была дарога ад задуманага да ўвасаблення. І яшчэ з падказкі Я. Гарадніцкага зазіраем у характар мыслення паэтаў і празаікаў, задумваемся над тым, як сёння спрацоўваюць мастацкія ідэі, вынайдзеныя і Я. Купалам, і А. Куляшовым, і М. Танкам многія дзесяцігоддзі назад.

Я. Гарадніцкі, звяртаючыся да бязмежнага мастацкага свету, шукаючы аргументы да сваіх перакананняў, паказвае адметнасці беларускай нацыянальнай літаратуры на працягу даволі значнага адрэзку часу. У прыватнасці, акрэслівае «аўтарскія жанры». «У прозе гэта перш за ўсё аўтарскія мадыфікацыі




*Гарадніцкі, Я.А. Літаратура як мастацтва: камунікатыўнасць, інтэрмедыяльнасць, наратыўнасць. — Мінск: Беларуская навука, 2014. — 401 с.: іл.*

традыцыйнага для нацыянальнай літаратуры жанру абразка, — піша даследчык. — Ужо на пачатку станаўлення гэтай жанравай разнавіднасці творы беларускіх аўтараў вызначаліся індывідуальным характарам, мастацка-стылявой своеасаблівасцю. У гэтым плане плённым уяўляецца параўнанне жанравастылявой адметнасці малафарматных празаічных твораў Ядвігіна Ш., К. Каганца, Я. Коласа, З. Бядулі, М. Гарэцкага». І далей: «Унікальнай жанравай з'явай у гісторыі беларускай прозы ХХ ст. з'яўляюцца "казкі жыцця" Я. Коласа, прытчавасць і алегарызм якіх паяднаны з выразна выяўленай аўтарскай пазіцыяй».

У другой палове ХХ ст. яшчэ больш узрасла папулярнасць жанру празаічнай мініяцюры, чаму ў значнай ступені садзейнічала актыўная і плённая праца ў гэтым кірунку Я. Брыля. Услед за прызнаным майстрам празаічнага слова да гэтай жанравай разнавіднасці звярнуліся іншыя сучасныя пісьменнікі, у тым ліку і паэты: К. Камейша, Л. Галубовіч і інш.».

А яшчэ ж дзённікавасць, а яшчэ ж эсэістыка… Дадайце ў такім разе як «аргументы» — мастацкія шуканні М. Стральцова, В. Карамазава, А. Жука, ды і В. Шніпа, У. Сцяпана, А. Федарэнку…

Не меней цікавымі і грунтоўнымі падаюцца развагі Я. Гарадніцкага ў раздзелах «Інтэрмедыяльнасць» і «Наратыўнасць». Манаграфія дапоўненая прадметным індэксам, а таксама індэксамі літаратурных твораў і імёнаў. Чарговы раз хацелася б выказаць шкадаванне, што тыраж такога сур'ёзнага ўзроўню даследавання зусім абмежаваны — 200 экзэмпляраў. Зразумела, што прэтэнзіі такога шкадавання — не да выдавецтва, а хутчэй — канстатацыя ўзроўню запатрабаванасці літаратурна-крытычных і літаратуразнаўчых работ.

**Сцяпан МІРШЧЫНА**

# Дэтэктыў у ваеннай форме

Сучасную беларускую літаратуру пра Вялікую Айчынную вайну папоўніў яшчэ адзін твор, што распавядае пра драматычныя падзеі, якія мелі месца ў Заходняй Беларусі ў чэрвені 1941 года. Аўтар вострасюжэтнага рамана «Самы доўгі дзень», заснаванага на рэальнай гісторыі, — журналіст і тэлевядучы, пісьменнік, сцэнарыст і гісторык Вячаслаў Бандарэнка, пяру якога належаць бестселеры свайго жанру «Ліквідацыя» і «Кадэцтва».

Для мастацкай рэалізацыі задуманага аўтар абраў жанр дэтэктыва, які дазваляе эстэтычна змадэляваць усяго адзін, самы першы дзень вайны, такі нечаканы і трагічны. Аднак героямі помнага дня сталіся не байцы Чырвонай Арміі, а супрацоўнікі міліцыі, мясцовыя гараджане і, як гэта ні парадаксальна гучыць, зняволеныя абласной турмы.




*Бондаренко, В.В. Самый долгий день / В.В. Бондаренко. — Минск: Харвест, 2015. — 256 с.*

Маладому сяржанту НКУС даручана выканаць даволі ардынарнае, як на першы погляд, заданне — прывезці з Брэста некалькі аўтамабіляў у раённы аддзел міліцыі. Нечакана даручэнне ўскладняецца дадатковым загадам: перавезці невялікую групу зняволеных абласной турмы ў Мінск. Ім давядзецца сутыкнуцца з дыверсійнай дзейнасцю груп, сфарміраваных з добра навучаных этнічных немцаў Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, закінутых на тэрыторыю Заходняй Беларусі для захопу невялікага райцэнтра і ператварэння яго ў перавалачную базу для нямецкіх танкавых часцей, што перайшлі ў наступ.

Аўтар прытрымліваецца аб'ектыўнасці і рэалістычна адлюстроўвае падзеі першага дня вайны: спакой і ціхамірнасць гараджан, якія зусім не чакалі вайны ў гэтую летнюю пару (што спрыяла лёгкай і хуткай расправе дыверсантаў над імі); даволі супярэчлівыя, неадназначныя ўзаемадачыненні зняволеных і міліцыянераў-канвіраў; сцэны крывавых забойстваў, жорсткае процістаянне супрацоўнікаў НКУС, іх барацьба з дыверсійнымі групамі.

Апроч іншага, у рамане акцэнтуецца ўвага на ўзаемадачыненнях маладога і старэйшага пакаленняў, свайго роду сінтэз энергічнай маладосці і вопытнай, мудрай сталасці, і не толькі ў сэнсе прафесійнай дзейнасці, але і пэўнай анталагічнай гармоніі ў сувязі з цэлым. Усе падзеі персанажы твора ўспрымаюць у сістэме маральных каардынат: і міліцыянеры, і шматлікія зняволеныя, падзеленыя між сабой сацыяльным статусам і ідэалагічнымі перакананнямі, што стварае напружанасць і складаныя міжасабовыя стасункі, з'яднаныя ў самым галоўным — усвядомленай неабходнасці абароны Радзімы.

Прадуманыя вобразы, адсутнасць празмернай апісальнасці, псіхалагічны лаканізм і вывераныя дыялогі, якія адэкватна адлюстроўваюць спецыфіку прадстаўленых у творы псіхатыпаў, — вось адметныя рысы аўтарскай манеры, якія спрыяюць сугестыўнасці тэксту.

Раман «Самы доўгі дзень» базіруецца на прынцыпах яснасці, дакладнасці і прастасці — складнікі ўдалага стылістычнага афармлення. Твор, па меркаванні аўтара, паўстае данінай памяці савецкай міліцыі, робіць унёсак у фарміраванне маральных ідэалаў, значнасць якіх заўжды актуальная для грамадства.

**Інэса МАРОЗАВА**

*З новага радка*

# Мовай вербаў і бяроз

Маладая паэтэса, прамаўляючы да людзей, малітоўна шукае, «падбірае» словы, мажліва, і занадта простыя, без паэтычных адкрыццяў, але далікатныя і выспеленыя. Так пачалося знаёмства з першым зборнікам вершаў Кацярыны Роўда «Водар белага наліву», аўтара-пачаткоўца, студэнткі-завочніцы філалагічнага факультэта, супрацоўніцы фундаментальнай бібліятэкі БДУ.

У вершах Кацярыны Роўда ёсць трапяткое пачуццё судакранання маладога, яшчэ, быць можа, не саспелага таленту са светам. Верш «Бабулі», прыкладам, кранае размовай з Богам, Небам і Зямлёй, з Чалавекам, які знайшоў вечны супакой і з якім усё яшчэ хочацца пагаварыць, паспавядацца:

*На могілках я сёння не была*
*І свечку ў царкве не запаліла.*
*З альбома фотаздымак узяла*
*Я твой. І гаварыла… гаварыла…*
*[…]*
*І хоць ужо даўно цябе не стала,*
*Была са мной… На сэрцы адлягло.*
*Ты і адтуль мяне паспавядала…*

Пра сувязь пакаленняў і часоў аўтарка піша даволі часта, піша пранікнёна («Маме», «Перапісаць жыццё», «Баба Рэня», «Маналог салдата», «Вялікая Кракотка», «Жыве Караткевіч» і інш.). Неад'емныя для дэбютнай кнігі вершы пра каханне — палкае, пякельнае, часамі адзінокае і тужлівае, поўнае расчараванняў. Выказвае аўтарка і сваё *credo*:

*Не магу я ўпустую жыць,*
*Проста грэцца пад сонца промнямі.*
*Вельмі хочацца заслужыць,*
*Каб любілі, цанілі, помнілі…*

Тэматычна вершы ахопліваюць ці не ўсе бакі жыцця, да якіх мае дачыненне аўтарка, і складаюцца ў два цыклы — «Мой родны край — маё натхненне» і «Жыццё ўсё расставіць на свае месцы».

«Паэзія зыходзіць на душу, як вясна, — піша Ян Парандоўскі ў кнізе «Алхімія слова». — Свет раптоўна становіцца абноўленым, блакітным. Паэты расцвітаюць рана…» Праўда, паэтэс у нас больш. Юнакі звычайна «затрымліваюцца» з выданнем першых кніг.

Мова Кацярыны Роўда гнуткая, спеўная, перадае адметнасці краю, дзе аўтарка нарадзілася і вырасла.

*Чароўны майскі вечар грэе сэрца,*
*І песціць памяць гукі паланэзу.*
*І так дзяцінства блізенька, здаецца,*
*Бы той букет, не руж, а проста бэзу.*

Менавіта ў вершы пра родную мову «вербаў і бяроз», «мову Коласа», «чароўную песню сэрцаў» знаходзіць аўтарка яркія вобразы, спадзеючыся, што «светлым шляхам» стане «сцежка вузкая», дзе «грыбным дажджом па краі» рассыплюцца словы «мовы беларускае…» У дачыненні да мовы Кацярына Роўда выкарыстоўвае выключна светлыя эпітэты, падсумоўваючы: «Я веру, што не станеш ты забытаю!»

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# Складаны шлях угору




*Вадзім Урублеўскі: «Бязмежнае — так я бачу цяпер свет. Наша быццё не сканчаецца гэтым жыццём, не завяршаецца цемрай старасці. Святло ёсць — і гэта Хрыстос. Бязмежнае — пазнанне Бога. Мы і ў вечнасці будзем бясконца пазнаваць Яго».*

Нечакана. Вось што можна сказаць пра дэбютную кнігу Вадзіма Урублеўскага «Бязмежнае», калі да таго ты нічога не ведаў пра аўтара.

Чаго мы зазвычай чакаем ад дэбютнай кнігі? Кнігі юнача-ўзнёслай, дзе вершы пра няшчаснае каханне перамяжоўваюцца з прызнаннямі ў любові Радзіме, маме, мове. Дзе выказваецца творчае і жыццёвае крэда, робяцца такія наіўныя, але кранальныя адкрыцці мастацкай америкі, дзе знойдзецца хоць адно прысвячэнне Караткевічу, Багдановічу, Купалу і іншым атлантам айчыннага пісьменства. Уласна, мы і пералічылі гэтыя самыя чаканні.

Вадзім Урублеўскі — рэдкае выключэнне. Нават сярод выключэнняў ён быў бы выключэннем, бо яго «Бязмежнае» — кніга рэлігійная ад першага да апошняга знака. І менавіта рэлігійная, не духоўная: малады аўтар звяртаецца да хваласпеваў (як жанру), рэлігійных гімнаў, іншыя яго вершы ўяўляюць сплаў споведзі і пропаведзі, іншыя — малітвы, у форме немудрагелістай, калі казаць выключна пра мастацкае ўменне, але творы гэтыя, безумоўна, шчырыя. Дзіўная рэч: вы адчуваеце, як прагне аўтар таго самага благаславёнага спакою і ў гэтым жаданні губляе апошнія яго рэшткі. Так малітвы пераходзяць ва ўкленчанне.

Гэтая кніга цікавая як сведчанне асаблівага пошуку: зазвычай малады аўтар шукае сябе — у каханні, у творчасці, у грамадстве, словам, апeрыруючы лексікай Вадзіма Урублеўскага, шукае сябе ў мірскім. Тут жа мы маем справу са ўсвядомлена абраным духоўным шляхам, з напружанай барацьбой, якая, між іншым, набывае розныя формы. Аўтар адназначна прамаўляе, што ў гэтым пошуку зразумеў адну істотную рэч: ваяваць трэба не са светам, але з самім сабой. Вядома, галоўны бой заўжды адбываецца ў нас саміх. Але адна справа прыняць гэта за аксіёму, іншая — дайсці да разумення старажытнай мудрасці самому. У гэтым сэнсе Вадзім Урублеўскі здзейсніў адзін з подзвігаў маладзёна на шляху да сталення.

Аднак усведамленню кепска падпарадкоўваюцца пачуцці. Аўтар успрымае свет абвострана (магчыма, справа не столькі ў рэлігіі, колькі ў юначым максімалізме), усе заганы нашае рэчаіснасціператвараюцца для юнака ў д'ябальскія выпрабаванні, а слабасці чалавечыя, такія мілыя, такія дарагія нам (а мастаку — тым больш!), малююцца самай чорнай фарбай. Здаецца вельмі верагодным, што такі рэзкі падзел паміж чыстанябесным і брудна-зямным патрэбны аўтару, каб не аступіцца з абранага шляху, каб выгартаваць характар, які ўжо затым дазволіць бачыць чалавечае існаванне не ў кантрасным чорна-белым, але са шматлікімі паўтонамі.

Гэта стварае супярэчнасць у рэгламентаваным Вадзімам Урублеўскім правіле: ваяваць адно з сабою. Яго позірк скіроўваецца не толькі на ўнутраную барацьбу. Асуджаныя аказваюцца радыё, тэлебачанне, кнігі (міжволі хочацца запытаць, дзеля чаго столькі часу і сіл аддавалі цягам многіх стагоддзяў манастырскія перапісчыкі?..). Дробныя праявы жыцця праз пафасную, часам нават ваяўнічую метафару ўзводзяцца ў ранг лёсавызначальных для чалавечай душы. З іншага боку, д'ябал хаваецца ў дробязях.

Магчыма, у такім перакасе «Бязмежнае» Вадзіма Урублеўскага выглядае крыху фанатычна. Насамрэч, не. Такое ўражанне ствараюць аўтарскі максімалізм, юначая палкасць, скіраваная не ў каханне, але ў любоў (яна і ёсць тое бязмежнае, што акрэслівае змест зборніка), таксама — шчырае жаданне стаць лепшым, вартым нябеснага раю, што і замінае яму на многія рэчы глядзець калі не з добрай усмешкай, то хоць бы паблажліва. Пераважна настрой вершаў не варожа-ваяўнічы, наадварот: тут адчуваюцца і скруха з нагоды недасканаласці мірскога свету, і расчараванне ці сумнеў ва ўласных сілах, і захапленне прыродай (што цікава, яна намаляваная выключна светлымі фарбамі — відаць, таму, што да яе стварэння чалавек не спрычыніўся). Прырода пры тым часта робіцца метафарай адухоўленасці; многія ідылічныя карціны разгортваюцца на фоне вясновых пейзажаў.

Аднак зусім абмінуць каханне аўтару не ўдалося. Зборнік адкрываецца вершам, у якім юнак вядзе дыялог з дзяўчынай. Вядома, дзяўчына бясплотная. Ніякіх вуснаў, бяздонных вачэй, льняных валасоў, тонкіх станаў. Яна ўвогуле патрэбная адно як суразмоўца, у вусны (метафарычныя) якога можна ўкласці словы пра каханне і любоў. Жанчына ў мастацкай сістэме нашага аўтара — стварэнне абсалютна чыстае; ледзьве не зямны адбітак Божай Маці. Ніякіх зямных пачуццяў да яе, здаецца, адчуваць нельга. І абрад вянчання — вельмі хвалюючы, насамрэч, пачуццёвы, нягледзячы на яго царкоўнасць, — таксама пазбаўлены гэтага напаўнення; аўтар вянчаецца з тугою, самотай. Гэтаксама верш «Я кахаю цябе» раскрывае не глыбока інтымнае пачуцце, але нешта ўсёабдымнае, словам, усё тое ж бязмежнае, увасобленае ў кожнай з'яве прыроды:

*Я кахаю цябе маланкаю,*
*Я кахаю цябе зарніцаю,*
*Тумановым шэрым світанкам,*
*Заціўшам і навальніцаю.*

І ўсё ж тут, як і ў вершах, дзе адгукаюцца беларускія павер'і («Дзяды», фальклорная вобразнасць у іншых асобных творах), адчуваецца больш сапраўднага жыцця, больш пачуцця «ад сябе».

У такой кнізе зусім нечакана выглядае верш, які гарманічна глядзеўся б у звыклым дэбютным зборніку. Размова пра «Раманс», дзе зіма, ціхія алеі, лагодныя словы жанчыны і нават сляды Булгакава на чыстым белым снезе:

*«Вы зноў адзін. Пачуйце голас мой!» —*
*адказ прыйшоў з наймудрага нябыту:*
*«Вы знойдзеце яшчэ свой светлы боль!*
*Бо кожны Майстар знойдзе Маргарыту!»*

Штопраўда, і тут не абышлося без белага птаха (ці не хрысціянскі гэта голуб?) і раю.

Падводзячы пэўную рысу, нельга не заўважыць наступнае: калі аўтар звяртаецца да інтымнай лірыкі (хоць гэтае азначэнне і не зусім пасуе творам «Бязмежнага»), калі пераважаюць вобразы адпрыродныя, месцамі — фальклорныя, заўважныя не толькі вершаскладальніцкія здольнасці аўтара, але і стваральныя, уласна паэтычныя. І тут вырашаць толькі аўтару: што пераважыць, што мае для яго большае значэнне: паэзія ці рэлігія.

Між тым гэта не значыць, што духоўная паэзія не можа быць паэзіяй у поўнай меры. Дастаткова згадаць «Ксты» Рыгора Барадуліна: іх вялікая сіла паходзіць не столькі з погляду, скіраванага ў нябёсы, колькі з разумення, што і ў зямным, тым, што Вадзім Урублеўскі адпрэчвае, ёсць тое самае высокае, чыстае. Яшчэ адзін прыклад схаваны ў самім зборніку: гэта пераклад верша іераманаха Рамана Мацюшына «Пакіньце». Тут думкі пра духоўнае не выказваюцца наўпрост, але закладзеныя ў вобразе-паралелі, на якім і трымаецца твор — цэласны, глыбокі. У гэтым перакладзе, як ні дзіўна, няма ні зваротаў да святых ці Бога, ні словаў з шэрагу «крыж, малітва, пакаянне, рай». Але настрой, які так імкнецца выказаць Вадзім Урублеўскі, і ўсё тая ж думка пра чалавечую прыроду, якая валодае маладым аўтарам, — усё гэта ёсць. Магчымы і іншы мастацкі шлях, калі толькі аўтар хоча яго знайсці.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Поры года Гурыновіча

**Пачынаеш чытаць паэму Фёдара Гурыновіча «Роднасць» — яе асобнай кнігай выпусціла выдавецтва «Кнігазбор» — і апаноўвае прадчуванне свята. Не так і важна, што Новы год наступіў ужо колькі месяцаў таму. Не гэтак істотна і тое, што турботныя будні моцна бяруць цябе ў абдымкі. Свята — з табой.**

*…А ўсё ж бываюць цуды на зямлі!*
*Мігцелі ёлкі весела ў квадратах*
*Аконных рам.*
*І галасы гулі,*
*І хлопаўкі ў дварах чуваць былі,*
*І снег пайшоў за некалькі хвілін*
*Да бою навагодняга курантаў.*

Фёдару Гурыновічу ўдаецца дакладна схапіць чароўныя імгненні. Хочацца жыць, знаходзіцца ў свеце непаўторнасці і свежасці, якія створаны талентам паэта, але, разам з тым, узяты з самой рэальнасці. Так, у творы нічога не прыдумана, а прысвячэнне «Памяці дарагіх мамы і таты» яшчэ больш запэўнівае ў сапраўднасці. Аўтар удала скампанаваў твор: паэма складаецца са свайго роду дванаццаці паэм, па колькасці месяцаў. Ёсць яшчэ важная адметнасць: задума паэмы нарадзілася не ў звычайную навагоднюю ноч, а ў тую, калі адбываўся пераход у новае тысячагоддзе, у ноч змены эпох. Тым самым у Ф. Гурыновіча з'явілася магчымасць, асэнсоўваючы пэўны кавалак уласнага жыцця, у нечым падвесці рысу і над усім мінулым стагоддзем.

Праўда, усё, нават найбольш важнае і істотнае з таго, што адбывалася ў гэты час з беларускім народам, паэт ахапіць не збіраўся, хоць пры жаданні мог увесці ў сюжэтную канву многія падзеі, лёсавызначальныя для краіны. Перад ім, як відаць са зместу, стаяла іншая задача: праз уласны лёс асэнсаваць жыццё пасляваеннага пакалення. У паэме праўдзіва адлюстраванае жыццё вёскі тых часоў, калі ўтрыманскае стаўленне да зямлі прывяло да яе дэградацыі, а чалавек-працаўнік ператвырыўся ў чалавека-спажыўца. Хоць нельга не падкрэсліць і іншае: на першым плане ўсё ж жыццё самога лірычнага героя, яго маленства і юнацтва.

Паэма «Роднасць» — быццам побыт душы літаратурнага героя. Нішто, звязнае з традыцыйным вясковым укладам, не праходзіць міма позірку паэта: ад сялянскай работы да хатніх спраў і адпачынку. Чытачы родам з вёскі пазнаюць сваё — блізкае і знаёмае. Толькі ў адным ім не параўнацца з аўтарам паэмы: у ягоным захапленні паляваннем і веданні яго сакрэтаў! Гэтыя старонкі пранізаныя асаблівым настроем, свежыя, як снег, на які не паспела ступіць нага чалавека, і чыстыя, як паветра, настоенае на пахах лесу і ворыва.

Прыродай Ф. Гурыновіч не проста захапляецца — жыве ёю, адчуваючы сябе часцінкай таго, з чаго і складаецца сама вечнасць.

*А ранак, ранак выдаўся які!*
*Сказаць цудоўны, казачны, харошы!..*
*Хоць слоўнікаў дзясяткі перакінь,*
*Не падбярэш эпітатаў такіх,*
*З чым параўнаць яго.*
*Я ўзвёў куркі*
*І, бы малітву, выдыхнуў: «Па-ро-ша!»*

Праўда, атрымліваецца пэўная нестыкоўка. Лірычны герой захапляецца прыродай і разам з тым не прамінае магчымасці «ўзвесці куркі».

Дарэчы, і сам Гурыновіч не абыходзіць гэты момант. Прама гаворыць пра тое, што і самому нярэдка не дае спакою: «… часам і сябе не разумею: / Два чалавекі розныя ўва мне / Жывуць: адзін і муху не кране, / Дыханнем пчолку адагрэе ў жмені… / Другі з двухстволкай ходзіць тым не меней, / Страляе па дзічыне й ні маргне». Гэта таксама выклікае павагу да паэта: не хібіць, не імкнецца падацца лепшым.

Толькі ў «Роднасці», вядома, важныя не столькі прыватныя моманты, колькі высокае паэтычнае майстэрства, з якім напісаны твор. Фёдар Гурыновіч не шукае той ці іншы непаўторны вобраз, а жыве ім. Трапляюцца параўнанні настолькі натуральныя, што здзіўляешся, як гэта табе самому раней у галаву не прыйшло менавіта такое ўспрыняцце малюнка. Вобразы набываюць важкі сэнс, спрацоўваючы на ажыццяўленне аўтарскай задумы: расказваючы пра пэўны месяц, узнавіць народны побыт, звязаны з гэтай парой года.

Напрошваецца параўнанне з вядомымі «Чатырма порамі года» Крысціёнаса Данелайціса. З той толькі розніцай, што вядомы літоўскі паэт адлюстраваў працу, побыт, народныя звычаі, цудоўную прыроду Літвы, а Фёдар Гурыновіч — з няменшым паэтычным майстэрствам — расказаў пра жыццё беларусаў.

Не магу не правесці яшчэ адну літаратурную паралель — з «Вандроўным шчасцем» Кастуся Кірэенкі. Свайму празаічнаму твору аўтар даў жанравае вызначэнне «рыбацкая паэма». Калі прытрымлівацца падобнага падыходу, дык у Ф. Гурыновіча атрымалася «паляўнічая паэма», споўненая самім паветрам Беларусі, сагрэтая цяплом Бацькаўшчыны.

Безумоўна, «Роднасць» Фёдара Гурыновіча — адзін з найбольш значных паэтычных набыткаў у беларускай літаратуры апошніх гадоў.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

18 сакавіка 2016 г.

# Дуэт гігантаў

**Кніжніца даўно перастала быць проста пунктам выдачы кніг. На першы план выходзіць асветніцтва. Напярэдадні юбілею 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, які будзе адзначацца ў 2017 годзе, дзве найбуйнейшыя кніжніцы — Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Прэзідэнцкая бібліятэка — аб'ядналі намаганні дзеля агульнай асветнай звышзадачы, якой прысвяціў сябе Францыск Скарына. Таму іх агульны праект — ад выбітнага асветніка, што калісьці перавярнуў кніжны свет усходніх славян. Наследуючы першадрукару, кніжніцы працягваюць яго ўрокі.**




Інтэрактыўныя заняткі ў Прэзідэнцкай бібліятэцы праводзіць Тацццяна Сапега, каардынатар праекта «У госці да кніг» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

## УРОКІ КНІЖНЫЯ

— Мы робім агульную справу, — адзначае загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Валерый Герасімаў. — Мы расказваем пра нашы гістарычныя бібліятэкі, аднаўляем іх, зводзім у адно месца. Калі казаць пра бібліятэку Радзівілаў, то частка знаходзіцца ў Нацыянальнай, частка — у Прэзідэнцкай, частка — у Акадэміі навук, штосьці — недзе за межамі. Калі нашы буйныя рэспубліканскія бібліятэкі не будуць аб'ядноўваць намаганні, то карціна застанецца няпоўная. Гаворачы пра бібліятэку Радзівілаў, як мы можам не казаць пра Нацыянальную? Як гаварыць пра Ф. Скарыну без калег, калі арыгіналы Скарыны захоўваюцца толькі ў Нацыянальнай?



Фота Кастуся Дробава.

Валерый Герасімаў паказвае адзін з рарытэтаў, што захоўваецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы, — карту Беларусі 1772 года.

У Нацыянальнай бібліятэцы працуе музей кнігі, дзе можна ўбачыць легендарныя арыгіналы першадрукара, якім ужо амаль 500 гадоў. У межах культурна-асветніцкага праекта «У госці да кніг» рэалізуецца серыя заняткаў «Урокі ў музеі». Заняткі будуюцца на аснове бібліятэчнага фонду з выкарыстаннем экспазіцыі музея. Падручнікі і сшыткі замяняюцца сапраўднымі экспанатамі, цікавымі макетамі. Гэта ўжо не проста экскурсіі — менавіта ўрокі на тэмы са школьнай праграмы, спецыяльна падрыхтаваныя музейнымі супрацоўнікамі. Заняткі «Францыск Скарына: што, дзе, калі» прэзентавала ў Прэзідэнцкай бібліятэцы вучням гімназіі № 76 г. Мінска каардынатар праекта «У госці да кніг», загадчык сектара навукова-праектнай работы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Тацццяна Сапега. Займальны аповед падмацоўваецца слайдамі прэзентацыі. Цікава ўбачыць партрэты Скарыны рукі Язэпа Драздовіча. Ён адлюстраваў Скарыну, які развітваецца з родным Полацкам. Дарэчы, менавіта Язэп Драздовіч стварыў адзін з першых жывапісных партрэтаў Скарыны (у 1927 годзе). Ёсць малюнкі Мікалая Байрачнага: Кракаў, дзе вучыцца Скарына, Падуя, дзе ён абараняе ступень доктара медыцыны.

Унікальнасць заняткаў Тацццяны Сапегі — сінхронныя апытанні, невялікія заданні на логіку, якія стымулююць інтарэс, трымаюць увагу. Імгненныя пытанні не даюць засумаваць. Нельга працаваць у пасіўнай метадыкі, лічыць Тацццяна Сапега, патрэбны дыялог, праца ў групах.

З 2013 года Нацыянальная бібліятэка Беларусі рыхтуе і выдае факсімільныя выданні Францыска Скарыны. Шматтомнае факсімільнае выданне ўпершыню спалучыць поўны збор кніг, якія былі надрукаваны Францыскам Скарынам у Празе (1517 — 1519) і Вільні (1522 — 1525). У аснове факсіміле — электронныя копіі кніг першадрукара, якія захоўваюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі ды іншых краін. Падчас заняткаў у Прэзідэнцкай бібліятэцы Тацццяна Сапега прадставіла да прагляду першы том. У ім можна было ўбачыць пераклады прадмоў на сучасную рускую, беларускую і англійскую мовы. Кожны можа пачытаць прадмову Скарыны. Рэдкая ўдача!

## УРОКІ ДРУКАРСКІЯ

У Прэзідэнцкай бібліятэцы шмат рэдкіх выданняў, якія каштуюць па некалькі мільёнаў долараў. А ўвогуле ў фондах Прэзідэнцкай бібліятэкі каля 2-х мільёнаў кніг (у рэзідэнцыі прэзідэнта знаходзіцца кнігасховішча), і імі можа карыстацца як міністр, так і студэнт, распавядае Валерый Герасімаў, загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі. Аддзел рэдкай кнігі — сапраўдны лабірынт. Прыкметны сейф — там якраз і захоўваюцца самыя каштоўныя рарытэты. Харызматычны Валерый Герасімаў першнаперш скіроўвае ўвагу на Скарынаўскіх выданнях: у Прэзідэнцкай бібліятэцы — факсімільныя перавыданні, арыгіналы — у Нацыянальнай. Вось кніга Скарыны, перавыдадзеная ў Германіі. Выданне ў натуральны памер.

Старажытныя кнігі. Можна ўбачыць факсімільнае перавыданне Тураўскага Евангелля і Слуцкага Евангелля. Але ацаніць тэхналогію, што прынёс Скарына, прасцей, калі паглядзець, як пісалі старажытныя беларусы ад рукі: тэкст не друкаваны, а рукапісны.

Думаеце, папірус толькі ў Егіпце? А ў аддзеле рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі? «Гэта як беларускі трыснёг, — паказвае спадар Валерый. — Вось высадкі. З гэтых сцяблінак даставаліся палоскі і рабіўся папірус. Палоскі накладваліся адна на адну, перакладаліся, замочваліся нільскай вадой, потым пад прэс. І гэта захоўваецца тысячагоддзямі. Праўда, у руках я трымаю сучасны папірус».

Ёсць такія шматгабарытныя выданні, што боязна падступіцца: ляжаць як валуны. Ды бліжэй да сейфа рух ажыўляецца. Адчыняюцца запаветныя дзверы. Сярод скарбаў з сейфа — «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі». Гэта частка кнігі: глава называецца «Хроніка зямлі рускай». Выдадзена ў 1611 годзе на польскай мове ў Кракаве.

Паказаў Валерый Герасімаў Статут ВКЛ 1744 года. У 3-й рэдакцыі ён быў надрукаваны ў 1588 г. Да гэтага былі дзве рукапісныя рэдакцыі: 1529 г., 1566 г. «Я трымаю выданне на польскай мове Статута 1588 года, але ў выданні 1744-га. Настолькі ён карыстаўся папулярнасцю, што яго перавыдавалі па-французску, па-польску, па-руску. Гэта перавыданне на польскай мове. Нядаўна адно з такіх рэдкіх выданняў было куплена за 24 мільёны долараў».

Дзіву даешся: рукапіс 1568 года. 50 старонак тэксту. На стараітальянскай і лацінскай мовах. Расчытаць вельмі цяжка: пакуль — толькі асобныя старонкі.

Кнігі на старабеларускай мове. Адной з іх каля 400 гадоў. Вокладка — абцягнутая скурай дошка, таму захавалася добра. Вось «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», Пецярбург, 1906 год. Па такім вучыліся ў першым класе.

## УРОКІ ПАСЛЯДОЎНІКАЎ

Прыжыццёвае выданне Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», першы зборнік Янкі Купалы «Жалейка». «Матчын дар» Алеся Гаруна 1918 года. Усё арыгіналы. І такой літаратуры ў Прэзідэнцкай бібліятэцы вельмі шмат. І гэта ўсё толькі захоўваецца? А пачытаць? Аказваецца, можа выдавацца карыстальнікам бібліятэкі.

Вось арыгінал «Руслана і Людмілы», прыжыццёвае выданне, якое трымаў у руках Пушкін, арыгінал і прыжыццёвае выданне 1755 года «Российской грамматики» Міхаіла Ламаносава. Яшчэ па-мастацку аформленае выданне 1887 года, пакрытае тонкім слоем чырвонага золата. «Фауст» Гётэ, пачатак стагоддзя, залаты зрэз, з выдатнымі гравюрамі Густава Дарэ.

Вялікая калекцыя карт, сярод якіх надзвычай рарытэтная — карта Беларусі 1772 года. Бабяць мініяцюрныя кніжкі ў некалькі сантыметраў. А яшчэ — каля 120 кніг са знакамітай бібліятэкі Радзівілаў, якая знаходзілася ў Нясвіжы. Усю калекцыю ў Прэзідэнцкай бібліятэцы алічбавалі і бясплатна перадалі Нясвіж. Тэксты ўсіх 120 кніг з бібліятэкі Радзівілаў — на дыску.

**Наталля СВЯТЛОВА**

***Праекты***

# Краязнаўчыя вячоркі

Згодам культуры ў Петрыкаўскай цэнтральнай раённай бібліятэцы стартаваў праект «Культурная спадчына Петрыкаўшчыны». Наведвальнікаў чакаюць віртуальныя вандроўкі, слайд-экскурсіі, медыяпанарамы па родным краі, вечарыны-ўспаміны, фальклорныя вячоркі, адкрытыя прагляды літаратуры, выстаўкі, экскурсіі ў музеі горада і раёна.

Першае мерапрыемства — віртуальная вандроўка па родным краі «Мой Петрыкаў… Мая Радзіма» — адбылося на базе краязнаўчага клуба «Спадчына» пры аддзеле абслугоўвання і інфармацыі бібліятэкі.. Удзел узялі вучні 8-х класаў сярэдняй школы № 1 г. Петрыкава. Запрасілі і мясцовую паэтэсу Любоў Арлову. З дапамогай медыяпрэзентацыі і відэафільма «Мой горад» пазнаёміліся з гісторыяй горада.

Падчас чарговай імпрэзы чытальная зала зноў сустрэла аматараў беларускай літаратуры і сяброў бібліятэкі, сярод якіх вучні гімназіі г. Петрыкава. Паэтэсы Ніна Ачапоўская, Любоў Арлова чыталі вершы.

Увазе вучняў была прадстаўлена кніга Ніны Ачапоўскай «Не маўчы, памяць», што выйшла ў 2014 годзе, — своеасаблівы помнік землякам, якія загінулі на вайне.

Праект «Культурная спадчына Петрыкаўшчыны» накіраваны на адраджэнне народных традыцый, вывучэнне малой радзімы і фарміраванне інтарэсу чытачоў да гісторыі.

**Алена СЦЯФНЯК**

# Вясновая эстэтыка

**Яе ўсе чакаюць з заміраннем сэрца. Вясною настрой на ўзвышанае і прыгожае. У 18-й бібліятэцы жаданую пару сустрэлі мастацкай экспазіцыяй. У галерэі «Вільнюс», што працуе на базе кніжніцы, акурат у першыя дні вясны адкрылася выстаўка работ мастака Валерыя Сямёнава «Поры года».**

Стварыць мастацкую галерэю ў бібліятэцы калісьці прапанаваў сябар кніжніцы, народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка. Былой загадчыцы бібліятэкі Алене Сухадолавай ідэя спадабалася. Мастацкая галерэя «Вільнюс» адкрылася ў 1997 годзе. Першыя выстаўкі адбыліся ў невялікай вузенькай зале з пабеленымі сценамі. Потым у бібліятэцы зрабілі рамонт. І цяпер зала, хай невялікая, прыцягвае ўтульнасцю. Гэтая прастора даспадобы не толькі мастакам, але чытачам і наведвальнікам.

— Бібліятэка сёння — гэта ўвогуле цэнтр культуры, — адзначае загадчык бібліятэкі № 18 Кацярына Зверава. — Прыйсці не толькі па кнігі, але і арганізаваць тут вольны час. Бібліятэкі праводзяць добрую масавую работу па розных напрамках: гэта і сустрэчы з пісьменнікамі, паэтамі. Тут можна займацца хэнд-мэйдам, можна сустрэцца з мастакамі, як у нашай бібліятэцы. З мастаком Валерыем Сямёнавым супрацоўнічаем не ўпершыню. Гэта ўжо другая яго персанальная выстаўка. Папярэдняя была ў 2010 годзе. Гэтым разам мы вырашылі прадставіць пейзажы, паказаць іх філасофскую насычанасць.



Фота Наталлі Святловай.

*Юныя мастакі Вікторыя Сяліцкая і Уладзімір Цвірко, выхаванцы выяўленчай студыі «Майстар», якой кіруе Валерый Сямёнаў, пры Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «АРТ» г. Мінска.*



*Валерый Сямёнаў «Раніца вясны».*

«Раніца вясны», «Маўклівасць», «Зімні сон», «Чаканне», «Запрашэнне ў восень», «Бярозавы гай», «Дарога да храма», «Восеньскае святло» — на думку мастака, праз прыроду можна ачысціцца. Вясна прыходзіць пасля зімовай маўклівасці. Своеасаблівае адушаўленне. Работы алегарычныя. Анёлы, прыкладам, у В. Сямёнава сімвалізуюць новае жыццё. Мастак хоча знайсці трэцяе вымярэнне.

— Імкнуся дамагчыся, каб святло ішло не ад мяне, а ад трэцяга вымярэння, — адзначае Валерый Сямёнаў. — Каб глядач адчуў сябе не сузіральнікам карціны, а ўнутры яе.

Валерый Сямёнаў скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут у 1984 г. Персанальныя выстаўкі ладзіліся ў музеі скульптуры і жывапісу імя А. Бембеля, галерэі «Славутыя майстры», «Канцэпцыя», «Верхні горад», серыя выставак у Траецкім прадмесці, палацы мастацтваў. Работы знаходзяцца ў калекцыях розных краін свету.

— Валерыя Мікалаевіча я ведаю са студэнцкіх гадоў, — дзеліцца мастак, сябар героя Анатоль Бяляўскі. — Мы сёння бачым цудоўнага рамантычнага пейзажыста, глыбокага, філасофскага. Акрамя гэтага, ён выдатны металіст (мастак па метале), манументаліст, скульптар, пісаў іконы, рабіў геаметрычнае панно. Цяпер яшчэ і педагог.

Валерый Сямёнаў кіруе выяўленчай студыяй «Майстар» пры Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі «АРТ» г. Мінска. Двое з яго вучняў прадставілі работы, створаныя да выстаўкі: Віка Сяліцкая («Вясна ідзе», «Вясна») і Уладзімір Цвірко («Казачны лес», «Май у квецені»). Летась у бібліятэцы была дзіцячая выстаўка выяўленчай студыі «Майстар» да 70-годдзя Перамогі. Работы юных мастакоў упрыгожваюць сцены сярэдняй школы № 177 г. Мінска, сцены цэнтра «АРТ». Намеснік дырэктара цэнтра «АРТ» Святлана Рагімава ўручыла творцам падарункі. Завіталі на выстаўку і навучэнцы гімназіі-каледжа мастацтваў.

— Мы актыўна працуем у эстэтычным кірунку, — заключае загадчык кніжніцы Кацярына Зверава. — Калекцыя стваралася з работ, якія пакінулі ў дар мастакі, што ў нас выстаўляліся: ёсць работы Марыі Ісаёнак, Леаніда Леўчанкі, Янкі Рамановіча, графіка Аляксандра Балянка і іншыя. Урокі эстэтычнага выхавання ладзім для ўсіх узростаў.

Графіка, батык, габелен… А энкаўстыка? І пра гэта распавядуць у бібліятэцы № 18. Чытачы ідуць у кніжніцу і наведваюць галерэю. Зала пастаянна адчынена і даступная для прагляду. А бібліятэкар праўдзе экскурсію: і па цяперашняй выстаўцы, і па пастаяннай экспазіцыі.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Капіляры творчасці Барыса Стральцова




*Творчая спадчына Барыса Стральцова ад «А» да «Я» ў зале беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі.*

**«Дарога журналіста — доўгая дарога, якая вымагае шмат сіл і не абяцае на фінішы толькі прыгожыя кветкі, што прыемна пахнуць. Могуць сустрэцца і невялікія завалы і пахілыя масткі, праз якія бывае цяжка перабрацца да запаветнага берага ісціны», — разважаў патрыярх беларускай журналістыкі, публіцыст, пісьменнік, заслужаны дзеяч культуры Барыс Стральцоў. Да 90-годдзя з дня яго нараджэння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у зале беларускай літаратуры, арганізавана выстаўка кніжнай спадчыны творцы «На скрыжаваннях слова».**

Пачаў пісаць у арміі. Вершы перадаваліся з рук у рукі. Многія пазнавалі сябе. Аднойчы камандзір дывізіёна, да якога таксама дайшлі вершаванкі, загадаў: «Ты, гэта, кідай вершаплётнічаць. Калі такі разумны, пераходзь на прозу. Пішы ў газету. Вось былі мы на артпалігоне, добра адстраляліся, вашага ўзводнага за дакладныя разлікі для стральбы пахвалілі. Напішы пра гэта. Толькі весела напішы!». Парада вызначыла лёс.

На выстаўцы прадстаўлены брашуры, манаграфіі, кнігі апавяданняў, аповесці, сотні газетных і журнальных артыкулаў Б. Стральцова. Цікава ўбачыць яго публікацыі ў часопісах «Полымя» (№ 3 1958 «Кінасцэнарыі Максіма Горкага»), «Маладосць» (№ 3 1959 нарыс «Над Нёманам новыя зоры»), «Беларусь» (№ 10 1961 апавяданне «Зваротны рэйс»), артыкулы ў «Весніку БДУ імя У. І. Леніна» (1970, 1972, 1973) і інш. Праявіў сябе і ў стварэнні фотаальбомаў, пісаў тэксты для іх. Дэманструюцца альбомы «Беларусь. Расповед аб сённяшнім дні» (1977), «Бабруйск» (1968). У «Вожыку» (№ 3 1965) бачым гумарэску «Рэзалюцыя».

«Задача была прадставіць максімальна поўна ўсе работы Б. Стральцова, што ёсць у нашым фондзе: ад «А» да «Я», — адзначае аўтар канцэпцыі экспазіцыі, бібліятэкар Ніна Касілава. — Па іх можна прасачыць гісторыю нашай журналістыкі. Кожны радок творцы, які трапіў у друк, у нас ёсць. Назва «На скрыжаваннях слова» — бо паяднаныя два жанры: прадстаўлены творы як журналіста і як пісьменніка».

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Выбар ці пошук?

Паэт і журналіст Зміцер Арцюх ужо знаёмы беларускаму чытачу па зборніку вершаў «Вясна ў кароткім паліто…», што выйшаў у серыі «Дэбют» выдавецтва «Мастацкая літаратура». А зусім нядаўна ў межах чарговай пастаноўкі паэтычнага тэатра «Арт.С» у сталічнай публічнай бібліятэцы № 15 імя Цёткі Зміцер прадставіў публіцы новую кнігу, гэтым разам з серыі «Маладая паэзія Беларусі» выдавецтва «Харвест», — «На скрыжаванні».

Рэдактар серыі «Маладая паэзія Беларусі», член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Рагнед Малахоўскі заўважыў: новая кніга Зміцера Арцюха — вынік яго дзесяцігадовай працы на ніве літаратуры і ў той жа час пачатак новага этапу ў творчым жыцці. Ды і лірычны герой, які «заблудзіўся між Дабром і Злом» і стаіць «на скрыжаванні сноў» — увасабленне праблемы выбару, пошуку шляхоў самарэалізацыі аўтара.

Чытаючы свае вершы (дарэчы, пад фартэпіянны акампанемент у выкананні лаўрэата міжнародных конкурсаў Цімура Шчарбакова), Зміцер напоўніў аўдыторыю арыгінальнымі вобразамі: ёсць у яго і «зазімелыя сненні», і студзеньскі дождж на развітанне, і вясна, якая вяртаецца восенню, а жнівень «зноў прыходзіць адзінокі». Але разам з тым… «Я буду за цябе заўжды маліцца, / Бо не кахаю — я цябе люблю», — сцвярджае аўтар, натхняючыся гэтай любоўю — да Маці, Радзімы, Слова, Паэзіі. Ды не толькі любоўю, але і верай: «Над самотаю ёсць Усявышні, / І самота, як снег, праміне», «Я шчаслівы, што Бог даў пісаць / Свае думкі, жаданні, пачуцці…» Лірыка З. Арцюха на дзіва меладычная — таму, відаць, яго тэксты гэтак гожа кладуцца на музыку. Паэтычную «хвалю» сваімі вершамі падтрымалі Рагнед Малахоўскі, загадчыца бібліятэкі імя цёткі Рэгіна Багамолава, пісьменніца і журналіст Алена Наследышава.

«А ты аднойчы вернешся ў мой дом, / І мы паўторым нашыя сустрэчы…» Мабыць, гэтыя радкі адрасаваны яшчэ і натхненню, якое прынясе з сабою ідэі для новага паэтычнага зборніка Зміцера Арцюха — магчыма, і не для аднаго?.. Час пакажа!

**Яна ЯВІЧ**

# Такія далёкія і такія блізкія:

## невядомае ліставанне Якуба Коласа і Новікава-Прыбоя

З 17 жніўня па 1 верасня 1934 года Якуб Колас удзельнічае ў рабоце I Усесаюзнага з'езда савецкіх пісьменнікаў. Пра гэты з'езд ён напіша: *«Калі гаварыць пра тое, які на мне персанальна астаўся след ад гэтага з'езда, то я сказаў бы, што ўся мая ранейшая работа, уся прадукцыя, якую я даў, яна мне паказалася ў маіх уласных вачах надзвычай малазначнай, і мне хочацца даць нешта большае, нешта лепшае, нешта такое, што сапраўды чыталася б з захапленнем…»*. Якуб Колас ацэньвае з'езд як гістарычную падзею сусветнага значэння, а сябе пазіцыянуе не толькі як сведку з'езда, але і як актыўнага яго ўдзельніка: *«Калі я цяпер успамінаю пра гэты з'езд, то ў маіх вачах устае невысокі на маскоўскія маштабы, упрыгожаны Дом Саюза, а каля гэтага дома ўвесь час цесным натоўпам стаяць людзі: адны для таго, каб увайсці ў залу, а другія проста для таго, каб паглядзець пісьменнікаў. У самой жа залі праходзіць цэлы рад каларытных, выдатных, яркіх фігур дакладчыкаў, як Максім Горкі, Карл Радэк, Бухарын»*. Дэлегатам гэтага з'езда быў вядомы рускі пісьменнік-марыніст Аляксей Сілыч Новікаў-Прыбой, які быў абраны ў склад Праўлення Саюза пісьменнікаў СССР. Менавіта там сустрэліся Якуб Колас і Новікаў-Прыбой, што стала пачаткам сапраўднага сяброўства. Абодва пісьменнікі былі сярод дэлегатаў з'езда, якіх Максім Горкі запрасіў да сябе на лецішча. Якуб Колас успамінае: *«Я з групай беларускіх пісьменнікаў быў закліканы да яго на дачу. У гэты дзень на крутым беразе Масква-ракі ў Аляксея Максімавіча сабралася да шасцідзесяці пісьменнікаў усіх нацыянальнасцей»*.

Наступная сустрэча сяброў адбылася ў 1935 годзе. Якуб Колас прымае ўдзел ва ўрачыстых вечарах, прысвечаных 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. 11 снежня на вечары ў Дзяржаўным драматычным тэатры прысутнічалі пісьменнікі А. Лахуці, Н. Зар'ян, А. Новікаў-Прыбой, І. Мікітэнка, М. Рыленкаў. Мікітэнка і Новікаў-Прыбой наведалі Якуба Коласа ў яго дадзеным доме на Вайсковым завулку, гэта сустрэча запомнілася малодшаму сыну Якуба Коласа Міхасю. Пра што гаварылі пісьменнікі, Міхась Канстанцінавіч не памятае, аднак імёны замежных гасцей засталіся ў памяці.

Нядаўна ў адным з архіваў Санкт-Пецярбурга знайшоўся ліст Якуба Коласа да Новікава-Прыбоя ад 2.04.1936 г., паколькі ён не ўвайшоў у поўны збор твораў паэта, прыводзім яго цалкам:

*«Милый, дорогой Алексей Силович!*

*Хоть я отделен от тебя, дорогой Алексей Силович, 700-ми километров, но мне стыдно немножко смотреть сейчас в твои добрые, умные и чуточку насмешливые очи. Ведь я был в Москве 14-16 марта и неудосужился заглянуть на часок к тебе. А ведь у меня было самое горячее желание побывать у тебя, погуторить и, что грех таить — даже распить бутылочку чего либо веселящего сердце. Но мне пребывание в Москве было очень непродолжительно. Многих своих личных дел мне не удалось устроить. К тому же у меня не было и гостиницы, где я мог бы остановиться. Приходилось уезжать в Клязьму. Это тоже отнимало время. Дольше оставаться в Москве я не имел возможности. Вот все эти обстоятельства прими во внимание и не осуди меня строго. По получении твоей книги и книги Павла Георгиевича (Павел Георгіевіч Нізавы— рускі пісьменнік. — **В. М.**) я хотел сейчас же написать и искренно и сердечно поблагодарить милых авторов, но отложил, имея в виду скорую поездку в Москву. Вот так оно всё и произошло, очень извиняюсь!*

*В будущем этот свой недочёт исправлю непременно. Уверен, что в этом году*



Якуб Колас ля свайго дома ў Мінску.

*мы встретимся и в Москве и в Минске. Сердечный привет Марии Леопольдовне (маецца на ўвазе жонка А. С. Новікава-Прыбоя Марыя Людвігаўна. — **В. М.**) от меня и от жены. Горячий привет Павлу Георгиевичу и большое спасибо за «Океан».*

*Целую крепко.*

*Если только будет юбилей мой, то заранее изъявляю своё огромное желание видеть тебя в первом ряду почётных гостей.*

*Всего лучшего — здоровья, радости и дальнейших успехов. Якуб Колас.*

*2 IV 1936 г. Минск. Академия Наук».*

Пісьменнікі сустракаліся і ў 1936 годзе ў Маскве. Аб гэтым сведчыць кніга, якая ў 2015 годзе трапіла ў фонды Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Першы том выбраных твораў з вершамі і паэмамі Якуб Колас падараваў свайму сябру з наступным дарчым надпісам: *«Милому, дорогому, честному, принципиальному, большому писателю Алексею Силовичу Новикову-Прибою. Я.Колас. 11. VI 1936 г.»*

18 чэрвеня 1936 года не стала чалавека, якога вельмі паважалі абодва пісьменнікі: пайшоў з жыцця Максім Горкі. Для Новікава-Прыбоя гэта была вялікая страта, страта блізкага сябра і настаўніка. Першыя спробы пяра Новікава-Прыбоя адносяцца да 1901 года, у «Кранштацкім весніку» з'явілася яго нататка пра вучобу ў нядзельнай школе. Да 1917 года Новікаў-Прыбой друкаваўся праўнальна мала, не прапускала царская цэнзура. У 1911 годзе ён дасылае М. Горкаму рукапіс свайго твора. Апавяданне «Па-цёмнаму» так яму спадабалася, што вельмі хутка яно з'явілася ў часопісе «Современник». Менавіта гэты твор зрабіў Новікава-Прыбоя вядомым пісьменнікам-марыністам. Сам Новікаў-Прыбой пісаў: *«Горький поставил меня на ноги. После учёбы у него я твёрдо и самостоятельно вошёл в литературу»*.

Максім Горкі быў сябрам і настаўнікам і для Якуба Коласа. З вялікай радасцю Якуб Колас прачытаў словы М. Горкага: *«У Беларусі ёсць два паэты — Янка Купала і Якуб Колас. Яны пішуць проста, шчыра, задушэўна»*. З захапленнем успамінаў іх першую сустрэчу ў 1928 годзе, калі М. Горкі вяртаўся з-за мяжы ў Савецкі Саюз: *«Я зайшоў у вагон і ўпершыню ўбачыў Аляксея Максімавіча. Даўно знаёмы і дарагі мне па партрэтах воблік яго ўсё ж паразіў мяне сваім ачараваннем. Назаўсёды запомнілася першае ўражанне ад яго глыбокіх, уважлівых вачэй, ад яго лагоднай усмешкі з-пад навісшых вусоў і прыязнага рукапажацця яго магутнай рукі»*. Аб пахаванні М. Горкага Якуб Колас пісаў: *«Стаючы ў пачэснай варце над трунай Максіма Горкага, я стараўся замацаваць у сваёй памяці дарагія рысы яго суровага і мужнага твару. Я мысленна азіраў увесь жыццёвы шлях гэтага нястомнага чалавека, які, прыйшоўшы з глыбінь народных мас на вышыні чалавечай культуры, амаль паўвека свайго невычэрпна плённага жыцця аддаў на служэнне народу…»*

У лісце да Сяргея Гарадзецкага ад 1 кастрычніка 1936 года Якуб Колас узгадвае Новікава-Прыбоя і запрашае абодвух на святкаванне 30-годдзя яго літаратурнай дзейнасці: *«Я просил тебя приехать ко мне 11 числа. Сегодня свою просьбу повторяю. Кстати, попроси от моего имени Алексея Силовича Новикова-Прибоя приехать на мой юбилей вместе с тобою. Я потерял его адрес. Передай ему мой сердечный привет»*. На святкаванне юбілею Новікаў-Прыбой прыехаць не змог, але даслаў віншавальную тэлеграму.

Пісьменнікі віншавалі адзін аднаго з юбілеямі, значнымі падзеямі ў жыцці. У 1937 годзе Якуб Колас даслаў Новікаву-Прыбою тэлеграму, яна друкуецца ўпершыню: *«ДОРОГОЙ АЛЕКСЕЙ СИЛОВИЧ СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЮ ДОРОГОЙ АЛЕКСЕЙ СИЛОВИЧ С ШЕСТЬЮ ДЕСЯТКАМИ ЖИЗНИ И ТРЕМЯ ЗАМЕЧАТЕЛЬНОГО И ПОУЧИТЕЛЬНОГО ПИСАТЕЛЬСКОГО ПУТИ ИСКРЕННО РАД ПРИВЕТСТВОВАТЬ ТЕБЯ КАК БОЛЬШОГО ИНТЕРЕСНОГО ПИСАТЕЛЯ И КАК ПРЕКРАСНЫХ КАЧЕСТВ ЧЕЛОВЕКА СЕРДЕЧНОГО ОТЗЫВЧИВОГО ПРЯМОДУШНОГО СЧАСТЛИВ*



Аляксей Новікаў-Прыбой на лецішчы ў Тарасаўцы. 1934 г.

*СКАЗАТЬ КАК ЛЮБЯТ ТЕБЯ ТВОИ МНОГОЧИСЛЕННЫЕ ЧИТАТЕЛИ И КАК МНОГО У ТЕБЯ В БЕЛОРУССИИ ГОРЯЧИХ ПОКЛОННИКОВ ЖЕЛАЮ МНОГИХ ЛЕТ ТВОРЧЕСКОЙ РАДОСТИ И ДОСТИЖЕНИЙ МОЯ СЕМЬЯ ГДЕ ТЫ РОДНОЙ И БЛИЗКИЙ ТАКЖЕ ГОРЯЧО ПРИВЕТСТВУЕТ ТЕБЯ ЯКУБ КОЛАС»*. У сакавіку 1941 года разам з Янкам Купалам віншавалі з прысваеннем Сталінскай прэміі за другую частку рамана «Цусіма»: *«ДОРОГОГО АЛЕКСЕЯ СИЛОВИЧА ИСКРЕННО ПОЗДРАВЛЯЕМ СТАЛИНСКОЙ ПРЕМИЕЙ ПРИВЕТ ЦХАЛТУБО ЯНКА КУПАЛА КОЛАСА ЯКУБА=КУПАЛА КОЛАС»*.

У 1932 годзе пісьменнік Пётр Парфёнаў параіў Новікаву-Прыбою пабудаваць лецішча для пісьменніцкай працы ў пасёлку Чаркізава на станцыі Тарасаўская Яраслаўскай чыгункі. Менавіта туды ў 1941 годзе разам з сынам Міхасём завітаў Якуб Колас, каб наведаць свайго сябра. За тры кіламетры ад Чаркізава, у гарадскім пасёлку Клязьма пад Масквою, знайшла прытулак сям'я Якуба Коласа, якая з вялікімі цяжкасцямі дабралася з палаючага Мінска да родных жонкі Якуба Коласа Марыі Дзмітрыеўны. У Міхася Канстанцінавіча засталіся цёплыя ўспаміны пра гэту сустрэчу. Міхась Канстанцінавіч расказаў Аляксею Сілычу пра стрэльбы брата Юркі, якія ён захапіў з сабою, абяцаючы брату іх захаваць. Аляксей Сілыч, заядлы паляўнічы, не пакінуў без увагі расповед юнака і падараваў Міхасю пачак пораху «Сокал» для стрэльбаў. У Міхася Канстанцінавіча застаўся і яшчэ адзін каштоўны падарунак, які нагадвае аб сустрэчы з пісьменнікам-марыністам, раман «Цусіма». На кнізе аўтар пакінуў наступны дарчы надпіс: *«Дорогому Мише — в будущем Михаилу Константиновичу Мицкевичу, чтобы читал и вспоминал об авторе этой книги. А. Новиков-Прибой. Тарасовка. 5/VIII 1941 г.»*. А ўжо 7 жніўня сям'я Якуба Коласа выязджае ва Узбекістан.

У Ташкент, дзе ў часе эвакуацыі жыла сям'я Якуба Коласа, Новікаў-Прыбой дасылае сябру-юбіляру тэлеграму: *«ПОЗДРАВЛЯЮ ДОРОГОЙ ДРУГ ШЕСТИДЕСЯТИЛЕТИЕМ СЛАВНОЙ ПЛОДОТВОРНОЙ ЖИЗНИ ЖЕЛАЮ ДАЛЬНЕЙШЕГО ЗДОРОВЬЯ УСПЕХА ЛИТЕРАТУРЕ НОВИКОВ-ПРИБОЙ»*.

Сустракаліся пісьменнікі і ў 1944 годзе. Пра гэта сведчыць ліст Якуба Коласа да Новікава-Прыбоя. Копію гэтага ліста, а таксама копію ліста, які мы прыводзілі вышэй, і дзве тэлеграмы Якуба Коласа да пісьменніка-марыніста, зусім нядаўна ў музей песняра перадаў пісьменнік з Санкт-Пецярбурга Андрэй Антонаў. Паколькі гэты ліст таксама не ўвайшоў у поўны збор твораў Якуба Коласа, прыводзім яго цалкам:

*«Дорогой Алексей Силыч! Сердечно поздравляю с Новым Годом. Желаю счастья, радости, удачи, здоровья и благополучия. Жалею, что не могу лично поприветствовать твой дом: немного ушиб ногу.*

*Очень прошу пожаловать с супругой сегодня, 2 января 1944 г., к нам в Клязьму — улица Кагановича, 11/1. Буду ждать.*

*Всего наилучшего.*

*Привет от М.Д. (Марии Дмитриевны. — **В. М.**). Она присоединяет свой голос и очень просит тебя и М.Л. (Марию Людвиговну. — **В. М.**) приехать к нам.*

*Твой Якуб Колас 2 I 1944 г. Клязьма»*

У пачатку 1944 года стан здароўя Новікава-Прыбоя рэзка пагоршыўся, паласная аперацыя паказала, што пісьменніку засталося жыць вельмі мала. Ён вельмі хацеў дачакацца Перамогі, але 29 красавіка яго сэрца перастала біцца. У дзённіках Якуба Коласа ёсць запіс ад 2 мая 1944 года: *«Сышоў з жыцця яркі пісьменнік, рэдкасны чалавек, самародак-мудрэц, глыбіня зямлі. Калі ён быў жывы, не прыходзіла ў галаву мысль, што гэты чалавек сойдзе ў магілу. Як ён пакутаваў, будучы ў бальніцы! Як глыбока перажываў ён гэты чалавечы трагізм!.. Мімаволі думаеш і аб сваім апошнім часе на зямлі. А ён не такі ўжо і далёкі»*. 3 мая 1944 г. разам з М. Лыньковым, М. Танкам, К. Крапівой, М. Клімковічам Якуб Колас прысутнічае на пахаванні Аляксея Новікава-Прыбоя, нясе ганаровую вахту ля труны нябожчыка. Пасля смерці сябра Якуб Колас не губляе стасункаў з яго сям'ёй, дапамагае ім, наведвае лецішча Новікава-Прыбоя. У коласавым дзённіку ёсць такі запіс ад 23.07.1944 г.: «Нічога не рабіў. Пазіраў на хмары. Дзень гарачы, душны. Былі на дачы Новікава-Прыбоя. Няма добрага гаспадара». Якуб Колас вельмі перажываў страту свайго сябра, таленавітага пісьменніка, блізкага, дарагога і цудоўнага чалавека.

**Васіліна МІЦКЕВІЧ**

# Міхась ПАЗНЯКОЎ:
# «Мы ўсе ў адной лодцы»



**Новая кніга — добрая нагода для размовы з аўтарам. Што да зборніка Міхася Пазнякова «Хлеб для партызанаў», то ён пабачыў свет у выдавецтве «Чатыры чвэрці» зусім нядаўна. Апавяданні, эсэ, аповесць. Успаміны. У тым ліку старэйшых братоў і сясцёр пісьменніка, якія выступаюць галоўнымі героямі некаторых твораў. Такім чынам, яшчэ раз пра вайну — пераважна вачыма дзяцей. Новая згадка пра тое, пра што не забыцца. У новым ці знаёмым ракурсе? Гэта падаецца не надта і важным, калі глыбока кранае патрыятычная танальнасць. І міжволі скіроўвае да легендарнага выдання савецкага часу пад назвай «Ніколі не забудзем». Калісьці пранікнёныя радкі гэтай кніжкі прыкметна паўплывалі на фарміраванне светапогляду не аднаго пакалення дзяцей. Таму лагічна, што гутарка з Міхасём Пазняковым пачалася вось так:**

**— Міхась Паўлавіч, «Хлеб для партызанаў» — сталы водгук на знакамітую «Ніколі не забудзем» ці спроба дасказаць штосьці важнае?**

— І тое, і другое. Кніга «Ніколі не забудзем» — адна з галоўных і значных для мяне. Малым быў настолькі ўзрушаны і ўражаны ёю, што і цяпер пры згадцы вільгатнеюць вочы…

Я нарадзіўся праз шэсць гадоў пасля Вялікай Перамогі. Рос у сям'і франтавіка і партызанскай сувязной, у вёсцы, якая ў гады Вялікай Айчыннай была спалена фашыстамі. Многія суседзі і сваякі ваявалі, большасць дамоў не вярнулася. А суседнюю вёску Студзёнку ў маім родным Быхаўскім раёне спалілі разам з людзьмі: 442 жыцці… Школьнікам прыносіў букеты лугавых кветак на брацкую магілу. Потым з дзецьмі сваімі прыходзіў, цяпер — з унукамі, каб ведалі і памяталі, цанілі і шанавалі мірны час. Каб любілі людзей і Радзіму.

Вогненных вёсак толькі на Быхаўшчыне ажно 73. Дарэчы, яшчэ старшакласнікам напісаў аповесць пра трагедыю Студзёнкі, але рукапіс, на жаль, не захаваўся… У кнізе «Хлеб для партызанаў» я распавёў тое, што мне некалі апавядалі бацькі, што ведаю толькі я.

Старая Марфа, у якой фашысты расстралялі сынаву сям'ю, пазней выратоўвае нямецкага салдата… У 1944 годзе салдата адпускаюць з фронту — гадаваць траіх дзяцей, бо іх маці памерла ад тыфу… Ведаеце, мяне вельмі абурае, калі імкнуцца перагледзець гісторыю барацьбы нашага народа, прынізіць заслугі былой агульнай Айчыны ў той вайне. Таксама як і спробы абяліць фашысцкіх паслугачоў. Перакананы: да ваенна-патрыятычнай тэматыкі пісьменнікі будуць звяртацца яшчэ і яшчэ... І я — таксама.

**— Такая пазіцыя, відаць, паспрыяла ўвазе да вашай творчасці з боку Мінабароны: тройчы лаўрэат!**

— Узнагароды Міністэрства абароны і Дзяржаўнага камітэта пагранвойскаў — асобны радок біяграфіі. Бываю на пагранзаставах, у вайсковых часцях, выступаю перад вайскоўцамі ў Цэнтральным доме афіцэраў, у Ваеннай акадэміі. Член Рэспубліканскай камісіі па шэфстве над асабовым складам Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, актыўны ўдзельнік Студыі ваенных пісьменнікаў.

**— Калі гаворка пра паэта Пазнякова, згадваеш перш за ўсё не паэта-лірыка. Што, аднак, не выключае прысутнасці шчымлівай лірычнай ноткі ў вашых вершах грамадзянскага гучання…**

— Мне падаецца, такое спалучэнне дапамагае ў наш разбалансаваны час дасягнуць пэўнага ўздзеяння на чытача — пры ўмове шчырасці, дасканаласці і праўдзівасці радка.

Я ўпэўнены: у пісьменніка і сёння ёсць свая сфера дзейнасці, свая (выбачайце за высокі стыль) місія. Важкім пісьменніцкім словам ён можа зрабіць для краіны, народа, яго культуры ўсё адно больш, чым спробамі шчаміцца ў палітыкі.

**— Быць верным аднойчы абраным каштоўнасцям нягледзячы на рэзоны, любіць радзіму ў любое палітычнае надвор'е… Адкуль такі стрыжань?**

— Самім часам гартаваўся! Заўсёднай працай, літаратурай, мастацтвам, здаровым ладам жыцця. Ідэалогіяй патрыятызму той эпохі. Гэтаму не здраджу. Як і каштоўнасцям. Яны — спадчына ад землякоў-вяскоўцаў, якія былі мужнымі, шчырымі, добрымі, працавітымі. Ад маіх выдатных бацькоў і настаўнікаў. У нашай сям'і гадавалася 11 дзяцей. Тата быў чалавекам веруючым. Гэта асабліва і не заўважалася: наведваў па святах царкву, пасціўся, тварыў малітву… Галоўнае, што ўсім святым запаведзям вучыў на ўласным прыкладзе.

Сёння, дарэчы, мы актыўна супрацоўнічаем з Беларускай Праваслаўнай Царквой. Праводзім сумесныя дабрачынныя акцыі, Дні праваслаўнай культуры, выстаўкі. Лічу, што ўсё гэта таксама павінна працаваць і, перакананы, працуе — на выхаванне чалавека, грамадзяніна, патрыёта.

**— У спісе айчынных пісьменнікаў, чые творы вы пераствараеце па-руску, — Янка Сіпакоў, Іван Пташнікаў, Уладзімір Гніламёдаў, Павел Саковіч, Казімір Камейша… Чым прывабілі менавіта гэтыя прозвішчы? І чым, на вашую думку, здольныя прывабіць рускамоўнага чытача?**

— Перакладаў і перакладаю шмат. У першую чаргу творы класікаў замежнай літаратуры на беларускую мову. На рускую — творы нашага прыгожага пісьменства, якія клаліся на душу, у якіх пісьменнікі таленавіта адлюстроўвалі жыццё беларусаў у найбольш складаныя часы і дзе яскрава бачная душа беларуса. Гэта творы, якія могуць і павінны, з аднаго боку, засведчыць талент пісьменніка, узровень літаратуры, з другога, — адметнасць мастакоўскага погляду, навізну і глыбіню прадмета адлюстравання, неардынарнасць вобразаў, а разам — непаўторнасць і багацце айчыннага мастацкага слова.

Лічу, што наша літаратура, у адрозненне ад іншых, і сучаснай рускай таксама, — найбольш талерантная, сумленна-сарамлівая, цнатліва-высакародная. Рускамоўнаму чытачу, асабліва выхаванаму на лепшых узорах рускай класічнай літаратуры, яна даспадобы. Дарэчы, многія з твораў у маім перакладзе друкаваліся ў Расіі і атрымалі добрыя водгукі.

Асобна хачу сказаць пра раман «Расія» Уладзіміра Гніламёдава. Гэта важкае слова ў мастацкай літаратуры. Пісьменнік падняў новыя падзейна-часавыя, тэматычныя і тэрытарыяльныя пласты, стварыў яскравы вобраз эпохі, паказаў шырокую карціну сялянскага жыцця на пераломным гістарычным этапе, глыбіннае сваяцтва славянскіх народаў. Мне пашчасціла перакласці першы раман эпапеі, які прынёс пісьменніку папулярнасць сярод чытачоў. Раман друкаваўся на рускай мове ў часопісе «Нёман», а неўзабаве выйдзе ў маім перакладзе — асобнай кнігай.

А Янка Сіпакоў, Іван Пташнікаў — якія таленты! У нас моцная літаратура. Толькі б шырэй прапагандаваць. Ды, канечне, больш чытаць.

**— Сваю кар'еру вы пачыналі, калі не памыляюся, на Мінскім заводзе шасцерняў… Прабіцца ў вялікую літаратуру і тады было няпроста, але цалкам магчыма пры наяўнасці таленту. Ці магчыма сёння прыйсці ў літаратуру ад станка? І як наконт жадаючых?**

— Пасля школы я паступаў на факультэт журналістыкі. Для вясковага хлопца без працоўнага стажу гэта было амаль немагчыма — велізарны конкурс! Пайшоў працаваць на завод, наняў кватэру. Жыў самастойна, яшчэ і сястры-студэнтцы дапамагаў. На трэці рабочы дзень выканаў норму сталага рабочага цэха парашковай металургіі… Актыўна займаўся спортам: футбол, хакей, лёгкая атлетыка, баскетбол. Заслужыў прапіску ў інтэрнаце… Вольны час аддаваў кнігам, тэатру. Пісаць пачаў пасля заканчэння філфака БДУ.

Пазней шмат часу забірала навука, праца ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР, потым на пасадзе дырэктара Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Першая кніжка вершаў для дзяцей выйшла ў 1987 годзе, для дарослых — у 1988-м. Таму лічу, што ў літаратуру прыйшоў з пэўным жыццёвым багажом, з досведам навукоўца і кіраўніка літаратурнага музея. Хаця, пры наяўнасці таленту (а гэта — здольнасці, памножаныя на тытанічную працу над словам) у літаратуру можна прыйсці і ад іншых сфер дзейнасці. Такія прыклады ёсць: Іван Канановіч, Змітрок Марозаў…

Ідуць і сёння. Амаль кожны дзень да мяне звяртаюцца са сваімі творамі людзі розных узростаў, розных прафесій. Сустракаюцца сярод іх і аўтары з даволі неблагімі здольнасцямі. Але нямала і тых, хто за грошы выдае ў камерсантаў вельмі слабыя творы ў прыгожа аздобленых кнігах.

Здольным заўсёды хочацца паспрыяць, дапамагчы. Астатнім раю расходаваць сродкі ў карысных мэтах.

Шукаем таленты сярод старшакласнікаў і студэнтаў. Выдаём кніжную серыю «Мінскія маладыя галасы». Самі ўкладаем, рэдагуем. За чатыры гады выдалі 19 кніг юных літаратараў, дзесяць з якіх ужо сталі членамі нашага творчага саюза: Людміла Клачко, Валерыя Саротнік, Ганна Чумакова, Маргарыта Латышкевіч, Кацярына Массэ, Дзяніс Марціновіч…

**— Сапраўды, сталы Міхась Пазнякоў — ужо не толькі творца, але і функцыянер. За той час, калі вы раслі да кіраўніка Мінскага гарадскога аддзялення аддзялення СПБ, істотна змянілася — і не ў лепшы бок — месца пісьменніка ў грамадскай іерархіі. Між тым актыўная праца сталічнай суполкі, якой вы кіруеце, можа паслужыць і свайго роду абвяржэннем. Як удаецца трымацца ў сталіцы? Як паразумеліся з мінскімі ўладамі?**

— Хачу засведчыць, што ў сталіцы з кожным годам узрастае цікавасць чытачоў да літаратурнага працэсу. Падчас нашых шматлікіх мерапрыемстваў залы поўныя. Мы шырока інтэграваны ў грамадскае і культурнае жыццё. Намаганнямі штатных супрацоўнікаў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ арганізоўваем да 400 мерапрыемстваў у год. Самыя добрыя стасункі і шмат сумесных праектаў з гарадскімі бібліятэкамі. Ёсць падтрымка з боку Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, Камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама, гарадской арганізацыі БРСМ.

У студзені пачаў працаваць Мінскі гарадскі паэтычны тэатр. Ідэю яго стварэння актыўна падтрымалі ў Мінгарвыканкаме. Праўда, без дадатковых штатных адзінак і фінансавання: сам — арганізатар, рэжысёр, дырэктар. Мы выступілі з прапановай заснаваць літаратурныя прэміі Мінгарвыканкама за лепшыя творы ў галіне паэзіі, прозы, дзіцячай літаратуры… Станоўчага адказу пакуль не маем. Будзем, аднак, спадзявацца на вырашэнне і гэтага пытання.

**— Міхась Паўлавіч, ці не прасцей было б захоўваць твар пры ўмове існавання ў краіне адзінай магутнай пісьменніцкай суполкі? Ці не дапускаеце думкі, што ў перспектыве менавіта так і будзе?**

— Перакананы ў тым, што ў будучым у нас павінен быць адзіны пісьменніцкі саюз. І нас павінны аб'ядноўваць адзіныя мэты: пашырэнне ўжытку беларускай мовы, захаванне кнігі, развіццё нацыянальнай культуры, умацаванне і росквіт суверэннай Беларусі…

Мы павінны ўзвышаць, паглыбляць, умацоўваць сваё, нацыянальнае, але ні ў якім разе не апускацца да нацыяналізму, калі прыніжаецца, зневажаецца ці адмаўляецца мова, літаратура, культура іншых народаў, з якімі жывём у адной супольнасці. З гісторыі мы ведаем, да якіх жахаў можа прывесці непрымірымы нацыяналізм. З іншага боку, мы павінны выпрацаваць дзейсную, вартасную нацыянальную ідэю, якая б аб'ядноўвала… Гэта не так проста! Хоць, вядома, аснова любой нацыянальнай ідэі — тое, што вызначае нацыю, народ: мова, культура, мастацтва, літаратура, справядлівыя законы, пабудова дэмакратычнага і шчаслівага грамадства.

Нам трэба шмат працаваць — ствараць высокамастацкія творы, узвышаць пісьменніцкі аўтарытэт. Арыентавацца на выбар пераважнай большасці народа, на кансалідацыю грамадства. Мы ў адной лодцы. У нас адна Радзіма. Наш творчы саюз стаіць на дзяржаўных пазіцыях. Тых, хто падзяляе гэты выбар, з радасцю прымем. Будзем разам пераадольваць цяжкасці, вырашаць праблемы, ставіць пытанні перад уладай — спакойна і ўзважана.

**— Вашыя творы ўключаны ў падручнікі, хрэстаматыі, чытанкі, навучальныя дапаможнікі, а гэта ўжо шырэй за межы вядомасці ў літаратурным коле. Ворагаў шмат нажылі?**

— Нават ворагам, дакладней, нядобразычліўцам (яны, канечне ж, ёсць), зазвычай жадаю толькі чыстага ды светлага — і ў душы, і ў жыцці.

**— Нечакана… Чаго яшчэ пра Пазнякова мы не ведаем?**

— У маім жыцці надарылася шмат кіруючых пасад. У свой час узначальваў камсамольскую, прафсаюзную, партыйную арганізацыі. І гэтым ганаруся не менш! Я — пра давер людзей, іх павагу. Ніколі не лічыў і не лічу сябе больш значным за іншых. Таму, хто адчыняе дзверы, імкнуся дапамагчы, паспрыяць, сказаць добрае слова. Ведаю: колькі зробіш добрага, столькі да цябе і вернецца.

Ніколі не быў прыстасаванцам: на ўсё і ўсіх — выключна ўласны погляд. Ніколі не быў сухім чынушам. Калі сутыкаюся сам з махровым чынавенствам, абыякавасцю, бяздушшам, то літаральна хварэю. Але не апускаю рук.

Многія ганарары траціў і трачу на падтрымку таленавітай моладзі, на аказанне дапамогі роднай школе і на прэміі яе лепшым вучням…

Дарэчы, у 65 гадоў я — вельмі багаты дзядуля і прадзед: 9 унукаў і 2 праўнукі. Напрыканцы мінулага года ў Выдавецкім доме «Звязда» ў мяне выйшла кніга твораў для дзяцей «Святло дабрыні». Дабрыня — галоўны талент, найкаштоўная чалавечая рыса. Выступаючы перад юнымі чытачамі, пабуджаю іх кожны дзень рабіць добрыя справы, чытаць разумныя кнігі, вучыцца, бо гэта, упэўнены, і ёсць шлях да поспеху.

Гутарыла
**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

# Іншыя прасторы



Фота Надзеі Бужан.

*Падчас прагляду экспазіцыі «Мікеланджэла. Стварэнне сусвету» праекта «Цэх».*

**За апошнія некалькі гадоў у Мінску можна назіраць буйны рост арт-пляцовак. За ўласныя сродкі, практычна без аніякай падтрымкі, адчыняюцца ўсё новыя і новыя месцы, дзе можна паслухаць лекцыі, паглядзець выстаўку маладых мастакоў ці фатографаў, пабываць на аматарскім спектаклі і г. д. Маладое пакаленне пачало самаарганізоўвацца ў пошуках культурнай прасторы і месцаў, дзе можна паказаць свае работы.**

Музеі ў асноўным накіраваныя на выстаўкі класічных твораў мастацтва. Яны даюць магчымасць маладым мастакам азнаёміцца з класікай. Без гэтага знаёмства з мастацтвам мінулага немагчыма рухацца наперад. У той час як маладыя параснік прыватных арт-пляцовак ідзе ў бок сучаснага мастацтва і сучасных ідэй.

Мы апынуліся ў сітуацыі падзелу прыярытэтаў: музеі ў асноўным захоўваюць культурную спадчыну, у той час як арт-пляцоўкі, дзяржаўныя ці прыватныя, прасоўваюць сучаснае мастацтва. Наколькі гэта апраўдана, ці ёсць у гэтых праектаў магчымасць выжыць, што наогул яны прынясуць новага?

Каб разабрацца, што дае з'яўленне новых культурных пляцовак у сучасным Мінску, у каго яны папулярныя і запатрабаваныя, трэба пачаць з вытокаў сучаснага прыватнага культурнага руху.

## НОВЫЯ МАЛАДЫЯ

Першыя крокі па стварэнні арт-пляцовак былі зроблены ў андэграўндным асяроддзі Мінска ў пачатку нулявых (часткова такой можна назваць колішнюю галерэю «Падземка»). Гэта былі месцы, у якіх выстаўляліся прадстаўнікі творчага андэграўнду, вельмі вузкага кола людзей. Праекты знікалі і паўставалі адзін за адным, часам існуючы не болей за год.

У канцы нулявых ідэя арт-пляцовак выйшла з андэграўнднага мастацтва і тусоўкі. Патрэбны быў новы тып арт-пляцовак, якія былі б цікавыя не вузкаму колу людзей, а сучаснай моладзі. Былі стыхійныя спробы выкарыстання прасторы, дзе адбываліся першыя крокі па засваенні лакальнай гарадской прасторы і стварэнні суполкі зацікаўленых гледачоў. Адчыніліся галерэя «Ў», «Цэх», «Балкі», «*Space*», «*Korpus8*», «Верх» і іншыя.

Створаны на ўласныя сродкі, «Цэх» — не толькі выставачная прастора. Тут праводзяць лекцыі, майстар-класы, семінары, у асноўным па гуманітарных навуках, запрашаюць розных спецыялістаў, як беларускіх, так і замежных. Летам 2015 года арганізавалі серыю лекцый па культуры Усходу, якія вёў Мікіта Моніч, супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Арганізоўвалі фестывалі, напрыклад, «Месяц фатаграфіі» і дакументальнага кіно «*Watch docs*». Таксама ладзяць мультымедыйныя выстаўкі, прынамсі, летась усе абмяркоўвалі праект «Палотны, што ажылі» Ван Гога. Зараз праходзіць «Мікеланджэла. Стварэнне свету».

— Цэх задумваўся як камерцыйны праект, але мы нярэдка даём сваю пляцоўку — з добрымі знiжкамі, а часам і зусім бясплатна — культурным і сацыяльным ініцыятывам, якія не могуць па фінансавых або іншых прычынах знайсці сабе памяшканне, — распавядае Юлія Дарашкевіч, кіраўнік праекта «ЦЭХ». Акрамя таго, у нас шмат сваіх праектаў, мы праводзім вялікі адукацыйны курс па фатаграфіі, выстаўкі маладых аўтараў, зараз хочам пачаць курс лекцый па сучасным мастацтве і адкрыць бібліятэку. Таму колькасць наведвальнікаў для нас важная не толькі з пункту гледжання выжывання — кожны набыты квіток на выстаўку, да прыкладу, дае магчымасць падтрымаць чарговы цікавы праект.

Фоташкола «*Studio67*» арандавала двухпавярховы былы цэх на тэрыторыі завода «Гарызонт». І абвясціла пра стварэнне крэатыўнага хаба, які назвалі «*Korpus8*».

— Мы ніколі не ставілі для сябе глабальных мэт накшталт «зрабіць свет лепшым» або «выхаваць грамадства». Гэта не ў нашых сілах. Мы проста робім тое, што нам падабаецца, а разам з гэтым узнікае нейкая сацыяльная адказнасць, — тлумачыць Вадзім Жук, кіраўнік праекта «*Korpus8*». — Ну вось Чырвоны дворык, напрыклад, створаны для графіці і стрыт-арту, у ім узнікалі арт-аб'екты, нейкія ініцыятывы. І пакуль мы там былі, захоўвалі іх і падтрымлівалі.

Праект робіцца на асабістыя сродкі, а таксама спонсарскую падтрымку невялікіх прыватных будаўнічых фірм, якія за невялікую рэкламу ў сацсетках былі гатовыя дапамагаць з будматэрыяламі. Падрыхтоўкай гэтага месца займаліся з дапамогай валанцёраў, якія прыбіралі, выносілі смецце, фарбавалі.

## КРЭАТЫЎНАЯ ІНДУСТРЫЯ

— Чаму крэатыўныя прасторы пачалі развівацца? Таму што крэатыўная індустрыя атрымала штуршок для развіцця. Наша місія — стварыць умовы і даць тэрыторыю для грамадскага жыцця горада, а таксама для ўзаемадзеяння культуры і бізнесу, — разважае Руся, прэс-аташэ праекта «*Korpus8*». — Мы не змаглі падабраць для гэтага месца лепшага вызначэння, чым крэатыўны хаб. Хабы ў першапачатковым значэнні злучаюць мноства правадоў, што пераклікаецца з нашай мэтай — аб'яднаць шмат працэсаў у адным месцы. І ў гэтым заключаецца наша адрозненне ад іншых крэатыўных прастор.

Арганізатары правялі перамовы з рознымі прыватнымі ініцыятывамі наконт супрацоўніцтва. Тут будзе фоташкола «*Studio67*», невялікая друкарня, студыя кавы, крама, дзе будуць прадавацца карціны, кнігі, вінілавыя пласцінкі і розныя работы беларускіх дызайнераў, кафэ і іншае. Суму, у якую абыдзецца пераўтварэнне будынка, заснавальнікі праекта не называюць.

— Зараблець «*Korpus8*» будзе ў асноўным арганізацыяй мерапрыемстваў і арэндай памяшканняў, — кажа Вадзім Жук. — Наведвальнікі ў будучыні змогуць удзельнічаць у адукацыйных праграмах, лекцыях, прэзентацыях, канцэртах, вечарынках.

На дадзены момант там ужо праходзіць першая выстаўка: «Разумееш, пра што я? №1: Прывіды штодзённасці». Прадстаўлены работы папулярнага лонданскага мастака Бэна Тэлана. Ён прыехаў у Мінск на адкрыццё і быў вельмі ўражаны, прапанаваў сваю дапамогу ў стварэнні іншых выставак англійскіх мастакоў.

Адна з арт-пляцовак адкрылася літаральна нядаўна, у лютым. «Верх» размясціўся на шостым паверсе будынка на скрыжаванні праспекта Машэрава і вуліцы Куйбышава. Замест афіцыйных прамоў на адкрыцці арганізатары вырашылі зладзіць маштабную вечарыну для мінскіх аматараў тэхнамузыкі.

Вядома, што там будзе лекцыйная зона, вялікая відэастудыя. У будні дні тут зона адпачынку, заняткі ёгай і розныя адукацыйныя і культурныя праекты, а ў выходныя, ноччу пляцоўка ператворыцца ў бар і месца для танцаў. Лекцыі абяцаюць нечаканыя: матэматыкаў, фізікаў і іншых навукоўцаў.

— Мы не робім акцэнт на тым, хто адкрывае нашу пляцоўку. Мы робім акцэнт на тым, дзеля чаго яе адкрываем. Ацаніўшы культурную сітуацыю, прыйшлі да высновы: творчае жыццё стала зусім нішчымным, накшталт нясмачнага хлеба, — Дзмітрый Кіслюк, адзін з заснавальнікаў «Верху», з задавальненнем распавядае пра крэатыўную рэвалюцыю, — нам хочацца, каб гэта месца стала дадатковым штуршком натхнення. Каб яно не было ўзурпаванае нейкім класам, нейкай культурай, каб было свабоднай, сучаснай сокавыціскалкай: выціснула менавіта той сок, які ўсе хочуць піць.

## НЕЗАПОЎНЕНЫЯ НІШЫ

Нягледзячы на агульныя моманты, кожны з праектаў унікальны і адрозны. Менавіта таму яны збіраюцца і далей працаваць, не канкурыруючы адзін з адным. Глядач будзе мець магчымасць схадзіць на лекцыю па навуковай журналістыцы, гендары ці дакументальным кіно ў «ЦЭХ», пасля чаго зазірнуць у «*Korpus8*» на майстар-клас пра каву, пасядзець у кафэ, паглядзець выстаўку або пабываць на навучальным курсе па фатаграфіі, а ўвечары пайсці ў «Верх» на вечарыну, выстаўку, лекцыю ці нешта іншае.

Магчымасць выказацца, атрымаць пэўныя веды або кваліфікаваную дапамогу ці кансультацыю. Скіраванасць да гуманітарных навук, фатаграфія і відэастудыя, мастацкія школы. Па сутнасці, усе гэтыя месцы існуюць для таго, каб павысіць культурны ўзровень краіны, стварыць новыя мастацкія практыкі, абзавесціся сувязямі. Прыватныя ініцыятывы, якія існуюць на ўласныя сродкі, не патрабуюць ніякага асаблівага ўдзелу дзяржаўных структур ці фінансавання з боку дзяржавы.

Арганізатары ўсіх гэтых пляцовак не раз адзначалі, што не ўсе аспекты культурнага жыцця Мінска і Беларусі могуць знайсці сабе месца для выступаў і рэпрэзентацыі. Яшчэ досыць незапоўненых ніш і нераскрытых магчымасцей. Усе яны жадаюць прыўнесці нешта новае ў культурнае жыццё, раскрыць з іншага боку сучаснасць, а таксама кансалідаваць культурную супольнасць для далейшага развіцця.

Улічваючы ўсё гэта, зараз мы назіраем з'яўленне і развіццё мясцовых культурных прастор. Яны ставяць сваёй мэтай прасоўванне маладой беларускай культуры ў масы, а таксама знаёміць людзей з культурнымі падзеямі і інавацыямі. З'яўленне новых месцаў дае магчымасць даведацца не толькі пра сучасные беларускае, але і замежнае мастацтва. Пазнаёміцца с трэндамі і новымі ідэямі міжнароднага маштабу.

Пакуль казаць рана, што мы атрымаем з іх дзейнасці новыя гучныя імёны. Але адно дакладна цешыць: адкрываецца ўсё больш культурных прастор, з'яўляецца ўсё больш магчымасцей для творчых людзей знайсці пляцоўку на свой густ, а гледачам ёсць з чаго выбіраць, каб адкрываць для сябе новыя імёны творцаў, якія, магчыма, цягам часу стануць шырока вядомыя як на радзіме, так і за мяжой.

**Аляксей КАРПЕКА**

# Маладая кроў



Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў

*У 2011 г. скончыў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «Акцёр драматычнага тэатра і кіно». У 2013 г. паступіў ва Усерасійскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі на спецыяльнасці «Кінарэжысура» і «Кінадраматургія». Праціуе рэжысёрам, кліпмэйкерам, сцэнарыстам.*

**Ад айчыннага кіно ўжо амаль нічога не чакаеш. Так, ёсць рэжысёры, якія хочуць здымаць, так, ёсць героі, пра якіх можна было б распавесці. Але на экране іх амаль не ўбачыш, ды і фільмаў айчынных выпускаецца не шмат. Але бываюць моманты, калі ёсць падставы казаць пра беларускае кіно. Стужка «Адной крыві» маладога рэжысёра Мітрыя Сямёнава-Алейнікава трапіла на Канскі кінафестываль.**

І гэта неверагодны поспех, улічваючы, што кароткаметражнае кіно асаблівай папулярнасцю ў масавага гледача не карыстаецца. Але ў Кане такім фільмам надаецца даволі шмат увагі: акрамя асноўнай конкурснай праграмы фестывалю, там ёсць секцыя *Short Film Corner* — пляцоўка для творчай камунікацыі кінематаграфістаў і прасоўвання кароткаметражнага кіно. *Short Film Corner* з 2004 года аб'ядноўвае рэжысёраў і прадзюсараў, якія, акрамя паказу сваіх фільмаў, хочуць павысіць веды ў галіне кіно і раскрыць прафесійны патэнцыял. Усяго ў гэтым годзе ў секцыю *Short Film Corner* трапіла 650 кароткаметражак (сярод іх 18 — з Расіі, 7 — з Украіны, і толькі адна — з Беларусі), якія будуць паказаныя ў межах Канскага кінафестывалю.

## Кіно пра любоў

Алейнікаў змог не проста зацікавіць аўдыторыю, але і прымусіць яе суперажываць. Ён кажа, што яго стужка «пра любоў і дараванне ў шырокім хрысціянскім сэнсе, пра тое, што, якія б розныя погляды на жыццё ў нас ні былі, нельга вырашаць канфлікты шляхам гвалту, бо гвалт — гэта вірус. Галоўныя героі — змагары, проста ў іх розныя шляхі дасягнення мэты».

У сінопсісе да стужкі напісана, што «Адной крыві» — гісторыя двух братоў з рознымі поглядамі. Насамрэч гэта не зусім так. Мне падаецца, што погляды ў іх якраз аднолькавыя, а каштоўнасці крыху розныя. Я спытала рэжысёра, як адбываецца самаідэнтыфікацыя героя, які жыве па сістэме. Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў лічыць, што глядач сам павінен зрабіць выснову, як змяніўся стан героя і ці змяніўся ён увогуле: «Старэйшы брат Максім па прычыне свайго ўзросту і жыццёвага досведу цвёрда стаіць на нагах. У яго галаве — светлая будучыня, і ў гэтым яго сіла. Я стараўся зрабіць фільм так, каб у персанажаў была свая праўда нараўне з астатнімі, каб публіка сама магла ўзважыць перакананні герояў, суаднесці іх са сваімі і пачаць пра гэта думаць. Праўда ў кожнага свая, але гэта канфлікт не вырашае».



Сцэна з фільма «Адной крыві».

Рэжысёр лічыць, што апанента трэба зразумець і прабачыць. У фільме «Адной крыві» выбачаецца малодшы брат Андрэй. І тое, пра што ён думае, можа дафантазіраваць глядач, сутнасць гісторыі ад гэтага практычна не зменіцца. Браты ўсё ж такі засталіся братамі, а не ворагамі.

## Змагацца за фільм

Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў адразу збіраўся здымаць стужку ў Маскве, дзе знайшліся ўсе патрэбныя месцы, але здымаць там было дорага, таму рэжысёр прыехаў у родны Мінск. Здымалі як у пазнавальных для ўсіх месцах (на вуліцы Кастрычніцкай, у чырвоным дворыку), так і ў сяброўскіх кватэрах: «Здымкі праходзілі цяжка, усё зацягвалася і пераносілася, акцёры былі занятыя на іншых працах. Галоўнае, праз што мы прайшлі падчас здымак, — шлях ад адчаю да перамогі. Мы выцягнулі фільм, нягледзячы на ўсе цяжкасці. Гэта момант агульнай волі каманды, за што я яе люблю і паважаю».

Усё часцей маладыя рэжысёры даказваюць, што незалежнае кіно магчымае без вялікіх фінансавых выдаткаў. Колькасць укладзеных грошай не заўсёды ўплывае на якасць і поспех карціны, да таго ж, для незалежнага кіно існуюць і больш важныя за грошы адзінкі вымярэнняў — гэта чалавечыя сувязі і аднадумцы. Калі грошы для здымкаў рэжысёру прыйшлося пазычаць, шукаць падпрацоўку, то аднадумцы ў Мітрыя Сямёнава-Алейнікава былі (акцёры нават працавалі ці за вельмі малыя грошы, ці дарма): «На фестывалі ў Вене, дзе мы перамаглі, галоўным канкурэнтам быў турэцкі фільм «Перакладчык», які знялі за 20 000 еўра. Мая стужка каштавала каля 7000 долараў».

Малады рэжысёр дакладна ведаў адно: ён здымае не студэнцкі фільм, а добры фільм. Стужка, на якую столькі ахвяравана, з-за якой шмат перажыта (напрыклад, у фінальнай сцэне фільма павінны былі спаліць аўтамабіль — для гэтага аўтар нават набыў старэнькую газель, але спаліць яе так і не змог — небяспечна і дорага), цяпер стала пазнавальным знакам Мітрыя Сямёнава-Алейнікава.

Можна сказаць, што фільм «Адной крыві» створаны не толькі самім рэжысёрам, але і яго сябрамі, роднымі і блізкімі, кампаніяй, якая дапамагла з абсталяваннем для здымкаў, маскоўскай студыяй, дзе бясплатна зрабілі апрацоўку стужкі. «У апошнія часы шмат кампаній сталі больш актыўна дапамагаць маладым кінематаграфістам, тым самым спрыяючы развіццю кінематографа. Гэта сапраўды добрая тэндэнцыя», — адзначае аўтар.

## Здымаць пра свет

У фільме «Адной крыві» паказана не гісторыя канкрэтнай краіны ці сям'і — узнятая агульначалавечая праблема, якая можа праявіцца ў любой краіне.

За гэты фільм Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў ужо атрымаў больш як дзясятак міжнародных узнагарод, у тым ліку прыз за лепшы сцэнарый на амерыканскім фестывалі *Reel Teal Festival* і Гран-пры Венскага кінафестывалю *Lets Cee*). З апошняй узнагароды, дарэчы, і пачалося фестывальнае жыццё карціны. Пасля Аўстрыі «Адной крыві» ўбачылі ў Расіі, Румыніі, Эстоніі, Амерыцы і Канадзе. Хутка кіно будзе прадстаўлена на 4 нямецкіх фестывалях, а таксама ў Іспаніі, Італіі і Францыі. «Шырокая геаграфія сведчыць пра адно: фільм сапраўды запатрабаваны», — упэўнены Мітрый Сямёнаў-Алейнікаў. Але больш ярка яму запомніўся венскі фестываль з абмеркаваннем фільма: «Пасля аднаго з паказаў да мяне падышлі аўстрыйскія настаўніцы адной з сярэдніх школ, запыталіся пра копію фільма, каб паказаць вучням старэйшых класаў: вось гэта поспех!»

Водгук публікі быў на кожным фестывалі, нават калі фільм і не перамагаў. У Румыніі (Тыргу-Мурэшэ, Трансільванія) на фестывалі было каля сотні адабраных стужак з усяго свету, і Беларусь перамагла там упершыню за 26 год існавання конкурсу. Рэжысёр адзначае, што фестывалі — гэта штосьці падобнае да латарэі: «Можа, пашанцуе, а можа — не. У журы заўсёды ёсць свае густы і перавагі, як і ў тых, хто стужкі адбірае. Спадабацца ўсім немагчыма».

## Прызнанне дома

«Адной крыві» адзначаны Гран-пры і прызам глядацкіх сімпатый на фестывалі *Bulbamovie* ў Мінску. Гэта было і першае прызнанне, і першая крытыка, бо ў фільма нават з'явіліся нядобразычліўцы, — прызнаецца аўтар.

Пасля паказаў на кінафестывалі «Лістапад» да рэжысёра падыходзілі людзі і дзякавалі за фільм і за яго мэсыдж. Адзначыў фільм і вядомы кіназнаўца Навум Клейман: «Карціна пабудаваная з вялікім разуменнем сутнасці праблемы».

Стужка «Адной крыві» адрасаваная гледачам усіх катэгорый — ад фестывальных да «інтэрнэтных», бо кароткаметражнае кіно камерцыйным быць не можа. «Яго вельмі цяжка прадаць, бо яно «нефармат». Глядач не пойдзе ў кінатэатр на фільм, які доўжыцца ўсяго 30 хвілін, а тым больш — 15. Яму патрэбная паўнавартасная карціна, каб апраўдаць сваё баўленне часу ў кіно. На фестывалях глядач усё ж такі больш падрыхтаваны — гэта людзі, якім і кароткаметражнае кіно цікавае», — лічыць аўтар.

У чым поспех карціны, чаму яе адабралі ў Кан, рэжысёр не ведае: «Цяжка сказаць, усе адборшчыкі розныя. Канечне, тут ёсць і рэгламент, які не залежыць ад асабістага меркавання — стужка павінна быць якасна зроблена, з вострай тэмай і ідэяй». Канскі кінафестываль — у першую чаргу брэнд. Гэта і магчымасць папулярызаваць кіно, і «ўліцца» ў склад прафесійных кінематографаў. А для Мітрыя Сямёнава-Алейнікава гэта яшчэ і доказ таго, што «ў Беларусі можна рабіць кіно, якое будзе цікавае не толькі для нас. Крок да таго, каб сцерці правінцыялізм у мысленні ў адносінах самога сябе, да сваёй творчасці».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Пачатак. І працяг

Пра яго ўжо шмат напісалі, стваралі мастацкія работы пад уплывам творчасці Марка Шагала і натхнёныя ім. Здымалі фільмы, дзе распавядалася яго гісторыя, дакументальныя і мастацкія (не так даўно сваё адчуванне прадставіў знакаміты расійскі рэжысёр Аляксандр Міта). Але па-свойму, з душой, пра яго вырашылі распавесці стваральнікі фільма «Марк Шагал. Пачатак». З душой, што закладзена самой анімацыяй. Тым больш, што творчасць Шагала вельмі сугучная гэтаму віду мастацтва. Але рэжысёр-пастаноўшчык мультфільма Алена Пяткевіч паказала славутага сусветнага мастака, калі ён толькі выхоўваўся як асоба ў бацькоўскай сям'і. Дапамагалі ёй сцэнарыст Зміцер Якутовіч, мастак-пастаноўшчык Ала Мацюшэўская, мастакі Інга Карашкевіч, Таццяна Удавічэнка. Ва ўсіх была задача — не проста распавесці пра Шагала, а зрабіць гэта ў «шагалаўскім» стылі.

Анімацыйны фільм «Марк Шагал. Пачатак» быў прадстаўлены ў Музеі гісторыі беларускага кіно на адкрыцці выстаўкі «…А ўсмешка засталася». Усмешка Шагала засталася Віцебску, роднаму гораду, які ён насіў у сэрцы, маляваў і ўслаўляў усёй сваёй творчасцю. У фільме Віцебск горад дзяцінства, горад любові. Але стваральнікі хацелі паказаць менавіта момант нараджэння творцы, прадставіўшы самы рамантычны перыяд жыцця мастака да яго ад'езду ў Санкт-Пецярбург. І гэта ўсяго за 13 хвілін.

Выстаўка з Музея гісторыі беларускага кіно падрыхтаваная па матывах мультфільма. Можна зразумець, як нараджаўся вобраз карціны: эскізы мастака-пастаноўшчыка Алы Мацюшэўскай, выкананыя на адмысловай плёнцы тэмпернымі фарбамі; далей выявы сканаваліся, разразаліся, кампанаваліся і складаліся ў анімацыйны фільм, у якім усе героі сталі жывымі, з пачуццямі, чалавечай цеплынёй і кожны — са сваёй душой. Анімацыйны твор падмацоўваюць мастацкія работы.

**Марыя АСІПЕНКА**



Марк Шагал, «Над горадам».

# Шчасце ў «чорных боксах»

**Для большасці гледачоў, калі размова ідзе пра Беларусь, тэатр асацыюецца са стандартнымі рэчамі. Ёсць вялікая глядзельная зала з шыкоўнымі крэсламі і жырандолямі. Сцэна, якая ўзвышаецца над гледачамі і стварае, такім чынам, уласную прастору. Абавязкова з кулісамі, з адпаведным святлом, бо павінна ж існаваць чацвёртая сцяна? А ў зале, наадварот, бяспечная цемра, якая засцілае, аддзяляе ад дзеяння і дазваляе рабіць усё што заўгодна. Нецікавы спектакль, а яшчэ на працы стаміўся? Можна заплюшчыць вочы, прылегчы на хвілінку-другую, а то і болей. Есці хочацца? Можна ціхенька, па-шпіёнску залезці ў сумку, адшукаць там цукерку дый шамацець фанцікам. Спектакль раззлаваў сваёй наватарскай формай, руйнаваннем класікі? Можна выказаць абурэнне сяброўцы, а потым разам дэманстратыўна сысці. Усё можна рабіць у глядзельнай зале, бо традыцыйная тэатральная прастора гэтаму спрыяе. У такім тэатры задача гледача — глядзець! Задача акцёраў — іграць свой спектакль. На працягу стагоддзяў тэатр быў менавіта такім, са строга рэгламентаванымі ролямі. Аднак дэмакратызацыя тэатра прывяла да значнай змены спосабу ўзаемадзеяння гледачоў і акцёраў. Шмат у чым дзякуючы мабільнай тэатральнай прасторы.**



*Спектакль «Ілюзіі» прыцягвае атмасферай дыялогу з гледачом.*

## ЯК У ІХ?

Што ж такое мабільная тэатральная прастора? Гэта ўніверсальны трансформер, які можа змяняцца ў залежнасці ад задачы спектакля. Разам з самой прасторай змяняецца і спосаб камунікавання з гледачамі. Крэслы могуць абрамляць сцэну колам, могуць увогуле адсутнічаць. У Еўропе такая мабільнасць дасягаецца за кошт "чорных боксаў" — чорных пакояў, дзе няма ўзвышэння для сцэны, дзе першапачаткова нічога няма, і такая пустая прастора мадэлюецца асабіста для кожнага спектакля.

Цікава стаўленне іншаземцаў да нашых традыцыйных вялікіх тэатраў. Восенню я наведала шведскі горад Кальмар. Сёння ў ім дзейнічае тэатр *Byteatern* — прыклад «чорнага бокса». Ёсць у Кальмары і традыцыйны тэатр, стары прыгожы будынак 1862 года. Жыхары горада ставяцца да яго з пашанай, аднак на пытанне "Дык чаму ж там сёння не іграюць спектакляў?" адказваюць усмешкай: а як у ім іграць? Дый навошта — у нас жа ёсць новы тэатр! Шведы прызвычаіліся да «чорнага бокса», з гонарам распавядаюць пра тое, як іх тэатральная прастора заўсёды змяняецца, як блізка знаходзяцца акцёры, як можна адчуць кожную іх эмоцыю. Пра спектакль на традыцыйнай сцэне ўспамінае сталае пакаленне шведаў — так, быў такі рытуал. Прыйсці ў прыгожы будынак з прыгожай жанчынай: ты — у касцюме, яна — у сукенцы. У антракце — бакал шампанскага. У сённяшнім *Byteatern* няма нават традыцыйнага буфета, замест яго — утульная кухня, дзе кожны можа зрабіць сабе каву ці гарбату, а ў антракце сустрэць акцёраў, якія хвіліну назад пражывалі іншае жыццё ў спектаклі, з кубачкамі вады. Вось такая дэмакратызацыя тэатральнай прасторы. Тэатра ўвогуле, жыцця і мыслення. Тэатр як ніколі блізка падступае да рэчаіснасці, сам робіцца ёй.

## ДЗЕЛЯ ЧАГО?

Пакуль за мяжой асвойваюць «чорныя боксы», у Мінску ніяк не зразумеюць, што яны патрэбныя. Навошта? У нас квітнеюць традыцыйныя тэатры. Рэканструкцыя Купалаўскага, Маладзёжнага, ТЮГа. Іх будынкі сталі яшчэ больш пампезнымі, жырандолі — шыкоўнымі, крэслы — камфортнымі, абсталяванне — багатым. За знешнім бляскам засталася ўсё тая ж мяжа паміж сцэнай і гледачамі, спектаклем і рэчаіснасцю. Канечне, сцэны атрымалі новыя магчымасці, якія будуць зусім нялішнімі для стварэння сучасных спектакляў. Аднак, па-першае, далёка не ўсім сучасным формам пасуе традыцыйная прастора. Па-другое, якой бы тэхнічнай, накручанай ні была б сцэна, гэта, па сутнасці, не вырашае камунікатыўнай праблемы.

Неабходнасць стварэння мабільнай тэатральнай прасторы, якая б існавала побач з традыцыйнай і функцыянальна дапаўняла б яе, навідавоку. Бо мы сёння адстаём ад тэатральнага руху, што пануе ў свеце. Асабліва гэтае адставанне ў тэатральнай прасторы было заўважна падчас Маладзёжнага тэатральнага форуму. Так, некаторыя спектаклі прайшлі на традыцыйных сцэнах — і ўсё было добра. Аднак гаворка не ідзе пра тое, што традыцыйная сцэна павінна знікнуць, не. Яна пра тое, што павінна знікнуць яе манаполія. Бо часцяком наша традыцыйная прастора была не здольна прыняць новы фармат. Так, спектаклі гасцей, якія граліся на сцэне ТЮГа, не выкарыстоўвалі вялікую новую залу тэатра. За няйменнем лепшых умоў эстонскі «Чысты розум» выкарыстоўваў толькі невялікі кавалачак сцэны, у той час як астатняя частка сцэны была занята гледачамі. Госці адмовіліся ад усіх шыкоўнасцей новага ТЮГа, бо ім была важная інтымная сустрэча з гледачамі. Калі б гэты ж самы спектакль іграўся на вялікай сцэне, а гледачы сядзелі ў зале, магія знікла б.

Такія перашкоды новым тэатральным формам традыцыйная прастора робіць і ў адносінах да беларускіх калектываў, таму неабходна тэрмінова шукаць ёй альтэрнатыву. Уявіце толькі, якімі былі б спектаклі «ІнЖэста», калі б яны не граліся на традыцыйнай сцэне Палаца чыгуначнікаў. Клаўнада, хадулі, звяртанне да эстэтыкі вулічнага тэатра — такому шаленству не месца ў савецкім будынку. Ад аднаго крытыка пачула думку, што толькі «ІнЖэст» і здольны змагацца сваімі спектаклямі з традыцыйнай прасторай. Змагацца — так. Акцёры Вячаслава Іназемцава, дый ён сам, часцяком урываюцца ў камфортную прастору гледачоў, смяшаць, нервуюць, бянтэжаць. А то і ўвогуле Іназемцаў пераварочвае ўсё дагары нагамі: акцёры — у зале, гледачы — на сцэне. Рэжысёр падыходзіць да тэатральнай прасторы і камунікацыі з гледачамі з розных бакоў. Але ж ці перамагае ён? Наўрад ці: вялікая халодная прастора душыць і інтымнасць, і фізічную вытанчанасць тэатра Вячаслава Іназемцава.

Здаецца, што традыцыйная прастора ўвогуле нязручная для фізічных тэатраў, дзе галоўнае — тонкія, часта нават незаўважныя рухі цела. Нездарма падчас нядаўняй «ПлаSтформы» польскія калектывы выступалі не ў Палацы чыгуначнікаў, а на невялікай па памерах сцэне Тэатра беларускай драматургіі ці ў памяшканнях Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў, якія больш прыдатныя для перфарматыўнасці і мабільнасці. Беларускі фізічны тэатр сёння, можа, і невялікімі, але ўсё ж такі заўважнымі крокамі рухаецца наперад. І менавіта зараз трэба падтрымаць яго новымі пляцоўкамі, якія б і тэхнічна, і атмасферна спрыялі б дыялогу. «Чорныя боксы» былі б тут ідэальным варыянтам.

Дапамаглі б яны і недзяржаўным калектывам. Бо колькі сёння ў Мінску сцэн? Няшмат. А колькі каштуе выступіць на такой немаленькай пляцоўцы? Шмат. А ці часта ўвогуле тэатры дазваляюць такія выступы? Ды не. А ці здолее нейкі эксперыментальны калектыў сабраць вялікую залу гледачоў, каб акупіць спектакль? Не!!! Але ж незалежных тэатральных аматараў сёння хапае: пачынаючы ад студэнцкіх тэатраў і заканчваючы такімі аўтарытэтнымі назвамі, як «Карняг-тэатр». Дзе ім паказваць свае работы? Дзе маладым рэжысёрам практыкавацца? Дапамог бы адзін (у марах — два, тры, пяць, мноства) добры па памерах «чорны бокс», ідэальна — незалежны ад іншых устаноў.

Такога мабільнага памяшкання патрабуюць не толькі фестывалі, тэатры, асобныя спектаклі, але ж і новыя напрамкі тэатральнай дзейнасці. Тыя ж чыткі. Сёння, калі беларуская драматургія значна ажывілася, чыткі становяцца асобным кірункам у развіцці айчыннага тэатра. «Чорны бокс», зноў жа, ідэальны варыянт для іх правядзення.

Чамусьці здаецца, што ўсе пералічаныя вышэй пункты — не адзіныя ў чарзе чакання мабільнай прасторы.

## ДЗЕ СІЛЫ?

Аднак ці ўсё так маркотна? Так, асноўныя сцэны нашых тэатраў пасля рэканструкцыі засталіся традыцыйнымі, але ж пры гэтым з'явіліся камерныя. У Купалаўскім, зусім нядаўна — у Маладзёжным, марыць пра камерную сцэну і ТЮГ. Больш за тое, ужо сёння на гэтых прасторах ідуць цікавыя па форме спектаклі маладых рэжысёраў. Зусім нядаўна на камернай сцэне Маладзёжнага прайшла прэм'ера спектакля Дзмітрыя Багаслаўскага «Саша, вынесі смецце». Сцэнай стала падвальнае памяшканне тэатра, шырокае не ў даўжыню, а ў глыбіню, такім чынам, традыцыйная тэатральная геаметрыя значна змянілася. Гледачы ўвесь час былі ў спектаклі, гэтаму спрыяла і мноства тэлевізараў, развешаных па сценах зусім блізка ад гледачоў. Невялікая прастора звужалася і рабілася яшчэ больш меншай, ствараючы такую прыемную тэатральную інтымнасць. Сёння прэм'ера Багаслаўскага — адзіны спектакль у рэпертуары камернай сцэны. Аднак будучае ў яе вельмі перспектыўнае: тэатр робіць акцэнт на тым, што новая прастора стане месцам для тэатральных эксперыментаў.

Ужо доўгі час камерная сцэна працуе і ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Цэнтр беларускай драматургіі арганізуе паказы спектакляў, чыткі, абмеркаванні. Нядаўна менавіта там прайшла прэм'ера Алены Сілуцінай "Участковыя". Рэжысёр знайшла цікавы спосаб камунікацыі з гледачамі. На працягу спектакля да іх час ад часу звяртаюцца з пытаннем: якому герою яны сімпатызуюць зараз. У залежнасці ад выбару гледачы займаюць адпаведную частку глядзельнай залы. Ёсць, канечне, у такой інтэрактыўнасці і тэхнічныя недахопы (што калі тых, хто прагаласаваў за аднаго героя, будзе болей, чым адпаведных месцаў?), дый беларускія гледачы яшчэ сарамеюцца так адкрыта ўдзельнічаць у спектаклі. Аднак апошнюю праблему, здаецца, мы зможам пераадолець, толькі калі такіх тэатральных інтэрактыўнасцей будзе ўсё болей і болей. Таму і з'яўленне спектакля Алены Сілуцінай на мабільнай сцэне РТБД — з'ява важная. Здаецца, у Цэнтра беларускай драматургіі пад кіраўніцтвам Аляксандра Марчанкі запалу на асваенне камернай сцэны хопіць яшчэ на многія свежыя тэатральныя праекты.

Яшчэ адзін тэатральны актывіст сёння — Цэнтр эксперыментальнай рэжысуры і яго кіраўнік Таццяна Траяновіч. Напрыканцы сакавіка рэжысёр павязе свой спектакль «Ілюзіі» ў Магілёў на «М@rtКонтакт». Гэты спектакль — вельмі паказальны ў плане асвойвання «чорнага бокса». Ужо доўгі час ён ідзе ў тэатральным памяшканні Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў. Дарэчы, сёння НЦСМ актыўна супрацоўнічае з тэатральнымі праектамі: дзякуючы куратару цэнтра Уладзіміру Галаку тэатральныя выступы адбываюцца там кожны месяц.

А паказы «Ілюзій» тым часам збіраюць гледачоў рознага ўзросту і адукацыі — можам смела казаць, што новая тэатральная форма, якая актыўна выкарыстоўвае мабільную прастору, ідзе ў масы. І жадаючых паскорыць гэтаю хаду становіцца болей.

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**

# Саюз неабыякавых

## Ігар Лучанок пераабраны старшынёй Саюза кампазітараў Беларусі



Фота БелТА.

**Беларускі саюз кампазітараў застаецца працаздольнай арганізацыяй творчых і неабыякавых людзей. Такую выснову можна было зрабіць па выніках XVI з'езда саюза, што адбыўся 12 сакавіка. Арганізацыя, якая існуе з 1933 года, цяпер аб'ядноўвае каля 130 творцаў, яны фактычна вызначаюць стан беларускай сучаснай музыкі і разумеюць сваю адказнасць за тое, якое ўяўленне пра яе ёсць і будзе далей у грамадстве. Таму пытанне, якое найбольш абмяркоўвалі, — хто будзе вызначаць прыярытэты, хто будзе прамаўляць ад імя ўсіх кампазітараў краіны, чый талент і аўтарытэт дапамогуць саюзу і творцам, якія ствараюць музыку, але далёка не заўсёды маюць магчымасць яе прадставіць слухачу. Па выніках справаздачы старшыні і праўлення адзначаны недахопы ў працы, якая прызнаная «недастаткова здавальняючай».**

Выбары старшыні на чарговы тэрмін не былі безальтэрнатыўнымі. Разам з кандыдатурай народнага артыста СССР Ігара Лучанка (узначальвае арганізацыю з 1980 года) у якасці прэтэндэнткі на пасаду разглядалі музыказнаўцу Радаславу Аладаву, прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. За яе аддалі галасы 29 чалавек (з тых, хто прымаў удзел у выбарах), Ігар Лучанок набраў 41 голас на сваю карысць, 5 бюлетэняў былі прызнаны нядзейснымі. Такім чынам, галасаванне паказала, што ўвага да таго, што адбываецца ў арганізацыі, з боку яе сяброў даволі пільная. Яшчэ адно імя ў кіраўніцтве: Эдуард Зарыцкі абраны першым намеснікам Ігара Лучанка.

На з'ездзе прынялі рэзалюцыю па выніках справаздачы старшыні і праўлення, дзе адзначана: «Узрос колькасны склад саюза за кошт прытоку маладых таленавітых аўтараў, у тым ліку музыказнаўцаў. За час, што мінуў пасля XV з'езда, беларускімі кампазітарамі створана нямала выдатных твораў, пашырыліся тэматыка, жанравая і стылістычная палітра беларускай музыкі, сфера навуковых даследаванняў. Беларускія кампазітары і музыказнаўцы неаднаразова годна прадстаўлялі краіну на замежных канцэртных пляцоўках, фестывалях, навуковых форумах. Разам з тым у працы Беларускага саюза кампазітараў выявіліся і істотныя недахопы, у тым ліку і ў арганізацыйнай дзейнасці. Акадэмічная музыка беларускіх кампазітараў папулярызуецца ўсё яшчэ недастаткова — найперш нацыянальнымі каналамі тэлебачання. Няпоўна асвятляюцца з'явы сучаснага музычнага жыцця ў сродках масавай інфармацыі. Цяжкасці адчуваюцца з выкананнем, выданнем не толькі буйных партытур і манаграфій, але і музычных твораў педагагічнага рэпертуару. Адсутнічае матэрыяльная база Саюза кампазітараў».

З недахопамі збіраюцца змагацца рашуча: ідзе гаворка пра падрыхтоўку новай рэдакцыі Статута БСК. Перад новым кіраўніцтвам пастаўлена задача распрацоўкі канцэпцыі па стварэнні структуры апякунскай рады дзеля прыцягнення сродкаў для падтрымкі творчых праектаў.

Таксама адзначана, што ў Год культуры трэба выкарыстаць максімум магчымасцей для папулярызацыі твораў айчынных аўтараў, узмацніць сувязі з выканальніцкімі калектывамі, канцэртнымі арганізацыямі, навучальнымі ўстановамі краіны, якія б уключалі айчынную музыку ў канцэрты. Што да маштабных твораў — опер і балетаў, — то Вялікі тэатр Беларусі мог бы разнастаіць афішу за кошт супрацоўніцтва з беларускімі кампазітарамі і больш часта паказваць тыя спектаклі, што ўжо пастаўлены. Трэба вяртаць увагу да сучаснай акадэмічнай музыкі — праз фестывалі і конкурсы, іншыя праекты.

Балючых тэм для кампазітараў у наш час шмат. Айчынная публіка за апошнія адно-два дзесяцігоддзі разумее музыку выключна як забаву. Але ёсць высокія ўзоры сучаснага музычнага мастацтва, і тут важна падрыхтаванасць людзей, уменне разумець не толькі класіку, але і счытваць вобразы сучаснасці, якія, можа, больш складаныя, непазнавальныя, дзе пастаўлены філасофскія пытанні, заключаныя ў гуках. Публіка сёння дыктуе ўмовы: што выконваць, паказваць і г. д. Але як жа яшчэ выхоўваць сучасную публіку, каб успрымаць творы айчыннага музычнага мастацтва, не выконваючы іх? Кампазітарам патрэбны саюз (у гэтым няма пытання), які будзе адстойваць іх інтарэсы.

*ВыДАТна*

# Нотныя знакі лёсу

## Выкладчыкі, навукоўцы, творцы: прыклады для пераймання

**Сакавік падараваў Беларускай акадэміі музыкі трох юбіляраў, якім прысвечана выстаўка ў нотна-навуковай бібліятэцы.**

На пачатку месяца віншаванні прымала кампазітар Галіна Канстанцінаўна Гарэлава, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, прафесар, загадчыца кафедры кампазіцыі. Яна ведае, што значыць асоба выкладчыка для таго, хто хоча пісаць музыку: вучылася ў кансерваторыі ў выдатнага беларускага кампазітара, прафесара Дзмітрыя Смольскага, а ў магістратуры — у прафесара Анатоля Багатырова, якога можна назваць айчынным класікам XX стагоддзя. Але і Гарэлава — імя ў нацыянальнай культуры. Яна абараняе ў музыцы традыцыі, якія ідуць ад класікаў, але ўмее быць наватарам. Напрыклад, сімфанічная паэма «Бандароўна» створана паводле Янкі Купалы. Галіна Гарэлава ўмее намаляваць яркія вобразы гукамі, выкарыстаць непаўторнасць розных інструментаў, што адлюстравана ў яе канцэртах. Кантата «*Anno mundi ardentis*», створаная на вяршы паэтаў XX стагоддзя, была адзначана ў 1992 годзе Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Выдатны творца сучаснасці перадае майстэрства моладзі і шчыра клапоціцца пра тое, каб не згас інтарэс да прафесіі кампазітара.

Служэнне музыцы — гэта яшчэ і прага разумення музычнага мастацтва. Тое, што варта лёсу, гэта справядліва ў дачыненні да Калерыі Іосіфаўны Сцепанцэвіч (сёлета ёй 90-годдзе), якая прысвяціла жыццё вывучэнню тэорыі музыкі. Яшчэ за савецкім часам даследчыца вывучала беларускую музыку, пісала пра яе ў кнігах, у тым ліку — падручніках. Кандыдат мастацтвазнаўства, заслужаны работнік вышэйшай школы БССР, прафесар, аўтар вучэбных дапаможнікаў, манаграфій, чалавек навукі, у якой так шмат музыкі, і наадварот. Яны абедзве спалучыліся ў асобе выкладчыцы, праца якой адзначана дзяржаўнымі ўзнагародамі: ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалём Францыска Скарыны. У Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі стала працаваць з 1957 года, прафесар кафедры музычнай педагогікі, гісторыі і тэорыі выканальніцкага мастацтва.

Загадчык гэтай кафедры цяпер — Вадзім Лявонцьевіч Яканюк, доктар педагагічных навук, прафесар, заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, які мае дзяржаўныя ўзнагароды, прыкладам, медаль Францыска Скарыны. Ён з'яўляецца галоўным рэдактарам навукова-тэарэтычнага часопіса «Весці Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі», старшыня Савета па абароне дысертацый пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, член Прэзідыума ВАК, шэрагу міжнародных навуковых арганізацый. Шаноўны выкладчык узначальвае Беларускую асацыяцыю педагогаў фартэпіяна. Як навукоўцу яго цікавіць псіхалогія прафесійнай творчай дзейнасці, выканальніцкае майстэрства, што адлюстравана, у прыватнасці, у манаграфіі «Музыкант. Патрэба. Дзейнасць».

Работы юбіляраў, выданні, кампакт-дыскі з музыкай прадстаўлены на выстаўцы.

*Канцэртнае жыццё*

### Гістарычнае

1. Што было варта наведаць на гэтым тыдні, дык канцэрт у зале імя Р. Шырмы Белдзяржфілармоніі ансамбля «Класік-Авангард» пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Уладзіміра Байдава. Калектыў прадставіў праграму «Беларуская мініяцюра XIX стагоддзя».

Адметна, што за невялікімі па форме творамі (вальсамі ды полькамі, мазуркамі ды галопамі, накцюрнамі і экспромтамі) паўставалі рамантычныя вобразы часу, героі і людзі эпохі, дзякуючы якім можна меркаваць пра музычнае жыццё, што вiравала на нашых землях у пазамінулым стагоддзі. І калі пра Міхала Клеафаса Агінскага і Станіслава Манюшку больш вядома шырокаму колу слухачоў, то застаецца яшчэ пласт музыкі, якая можа стаць адкрыццём, таксама як і імёны аўтараў. Цяпер яны падаюцца загадкавымі, а калісьці былі на слыху. Напрыклад, імя Фларыяна Міладоўскага, кампазітара і піяніста, які нарадзіўся ў Мінску і праславіўся яшчэ дзіцем, працаваў паспахова як на радзіме, так і за мяжой (нават калі стаў сляпы, пісаў музыку). Тое ж чакала і Юзафа Крашэўскага, больш вядомага як пісьменніка, але ён быў аўтарам музычных твораў. Віктар Кажыньскі, выпускнік Віленскага ўніверсітэта, зрабіў унёсак у развіццё музычнага жыцця Санкт-Пецярбурга. Міхал Ельскі — скрыпач-віртуоз, фалькларыст і руплівец музыкі, быў адным з арганізатараў Мінскага музычнага таварыства напрыканцы XIX стагоддзя (першай грамадскай музычнай арганізацыі ў нашай гісторыі). Творы гэтых і іншых кампазітараў мінулага варта чакаць у іншых праграмах калектыву.

### Класічнае

2. Брэсту на гэтым тыдні пашчасціла слухаць выступленне выдатнага беларускага піяніста Аляксандра Музыкантава ў суправаджэнні камернага аркестра. Ужо ў 16-гадовым узросце ён перамог на міжнародным конкурсе піяністаў «Мінск-2000», далей станавіўся лаўрэатам міжнародных конкурсаў за межамі Беларусі. Ураджэнец Асіповічаў, скончыў Беларускую акадэмію музыкі і магістратуру пры ёй, далей працягваў вучыцца ў Лондане і Маскве, а цяпер сам з'яўляецца выкладчыкам кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сваё выканальніцкае майстэрства ён прадэманстраваў на сцэне Брэсцкай абласной філармоніі.

З іншых сустрэч з класікай у Брэсце трэба звярнуць увагу на праграму «Ён, яна і опера» (24 сакавіка). Музычны дом «Класіка» з Мінска падрыхтаваў канцэрт з удзелам лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў Маргарыты Ляўчук (сапрана) і Аляксандра Баброва (барытон). Артысты ў тэатралізаванай форме пад акампанемент фартэпіяна (музыкант Уладзімір Авадок) рызыграюць гісторыі кахання з дапамогай арый і дуэтаў з опер Георга Фрыдрыха Гендэля, Вольфганга Амадэя Моцарта, Гаэтана Даніцэці, Пятра Чайкоўскага і беларускіх кампазітараў Яна Голанда і Станіслава Манюшкі. Ад імя апавядальніка гісторыю вядзе Аляксандр Чахоўскі. Канцэрт прадуманы такім чынам, каб захапіць слухачоў операй, якая ў наш час шмат каму падаецца складаным жанрам.

### Папулярнае

3. Чатыры дні з 21 сакавіка на вялікай сцэне Белдзяржфілармоніі будуць гучаць «Шлягеры на ўсе часы». Адразу некалькі праграм падрыхтаваў Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад упраўленнем народнага артыста Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга. Папулярныя песні савецкіх часоў і замежныя хіты прагучаць у выкананні салістаў аркестра. У першы вечар яны прапануюць інтэрпрэтацыі песень культавага рок-музыканта 80-х гадоў мінулага стагоддзя Віктара Цоя.

Вечар 22 сакавіка прыцягне ўвагу прыхільнікаў творчасці Валерыя Лявонцьева. Праграма «Лепшае» з яго рэпертуару — паводле версіі аркестра. Цікава не толькі тое, якія песні ўвайшлі ў праграму, але і выбар выканаўцаў для іх.

Наступны канцэрт пад назвай «Замежжа» скіраваны на аматараў сусветнай папулярнай музыкі. Трэба быць гатовымі для начаканасцей: хіты загучаць у выкананні айчынных артыстаў у аранжыроўках аркестра. У катэгорыю замежнікаў трапіў кампазітар і выканаўца Ігар Дэмарын, які нарадзіўся і жыў ва Украіне, але пераехаў у Расію. Аўтар рок-опер (у тым ліку «Парфюмер»), мюзіклаў і папулярных песень запрошаны ў якасці спецыяльнага госця гэтага вечара. На заканчэнне сустрэч у рамках праграмы «Шлягеры на ўсе часы» Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі прапануе канцэрт, прысвечаны творчасці кінарэжысёра Эльдара Разанава.

**Падрыхтавала Марыя АСІПЕНКА**

# Рыцарскі «будуар»

**Хочаце апынуцца на прыёме ў вялікага гетмана літоўскага? А ўбачыць, у што апраналіся самыя адважныя воіны сярэднявечча, пранікнуцца атмасферай турніраў і бясстрашных подзвігаў? Выстаўка «Баявыя наголоўі (шлемы) засцерагальнага ўзбраення і харугвы беларускіх зямель XI — XVII стагоддзяў» праходзіць у Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Усё, з чым можна пазнаёміцца, — гісторыя ў яе самым адважным абліччы. Гэта рэканструкцыі абмундзіравання і зброі, ахутаныя рамантыкай і доблесцю, выробленыя мастацкай майстэрняй «Стальная спадчына» ў Мінску. Апорай Вялікага Княства Літоўскага, а затым і Рэчы Паспалітай нездарма служылі прафесіяналізм і доблесць салдат. Аднаўленне культурных здабыткаў даўніны вельмі якаснае.**



*Сведкі воінскай доблесці — фрагмент выстаўкі.*

Гусарскі крылаты шышак, капалін, рыцарскія даспехі перыяду Грунвальдскай бітвы, самастрэл, паўтарачны меч, турнірная дзіда... Дзякуючы экспанатам можна прасачыць за развіццём майстэрства збройнікаў на працягу некалькіх стагоддзяў. Кожныя дзвятры дзясяткі гадоў даспехі абнаўляліся, станавіліся больш дасканалымі. Калі ў XIV — XV стагоддзях яны мелі даволі простую, немудрагелістую форму, утрымлівалі мноства кальчужных элементаў, то потым з'яўляліся графічныя, вытанчаныя лініі, а метал стаў больш лёгкім і тонкім.



*«Позні капалін з бувігерам», сярэдзіна XV ст.*

Асобна вылучаюцца на выстаўцы харугвы, велізарныя палотны з выявай гербаў альбо вершнікаў, — ад Мінскага ваяводства і Дома Радзівілаў. Харугвамі называлі не толькі вайсковыя фарміраванні, яшчэ і сцягі.

Але пераважная частка экспазіцыі — гэта шлемы: ад сферакані́чных, гаршковых да бацынэтаў і бургіньётаў. Тэхнічная дакладнасць дзіўным чынам спалучаецца з элегантнасцю вырабаў. Можна сказаць, што гэта — асобны від мастацтва. На многіх са шлемаў выгравіраваны прыгожыя ўзоры ці лаканічныя знакі-абярэгі. Самы каштоўны экспанат — шлем (тыпу «армэ») з унікальнага абмундзіравання Мікалая Радзівіла Чорнага сярэдзіны XVI стагоддзя, упрыгожаны складаным малюнкам з выкарыстаннем белай, чырвонай, чорнай эмалі і пазалоты.



*«Гусарскі шышак», XVII ст.*

Вядома, што гэты вайсковы галаўны ўбор (як і іншыя даспехі Радзівілаў) быў створаны знакамітым нюрнбергскім майстрам Кунцам Лохнерам, вырабы якога карысталіся вялікай папулярнасцю ў еўрапейскай шляхты.

Ваенна-гістарычная рэканструкцыя добра развіваецца ў Беларусі ў тым ліку з прычыны таго, што многія з рарытэтаў, асабліва звязаныя з вядомымі асобамі, былі, на жаль, у розныя часы вывезены з нашай краіны і знаходзяцца цяпер у музеях свету.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*

Масіўны будынак у стылі ампір са светлымі калонамі, што ўпрыгожвае Кастрычніцкую плошчу, — Рэспубліканскі Палац культуры прафсаюзаў у Мінску. Сёння гэта гісторыка-культурная каштоўнасць, водгалас савецкай эпохі, часу, калі, нягледзячы на дэфіцыт, цэнзуру і доўгія шэрагі, людзі адчувалі сябе больш шчаслівымі — іх аб'ядноўвала агульная моцная ідэя, яны верылі ў заўтрашні дзень, сілу працы і адукацыі, сяброўства і ўзаемадапамогі.

Адзін з сімвалаў беларускай архітэктуры быў узведзены крыху больш за 50 гадоў таму. Драўляная крама універсальных тавараў ператварылася ў культурны цэнтр сталіцы, які звонку стаў нагадваць антычны храм, падкрэсліваючы нацыянальную веліч.

Праектаваў будынак Уладзімір Яршоў, а скульптары Сяргей Селіханаў, Віктар Папоў і Аляксей Глебаў стварылі яго франтон з натуры. У кожнай з фігур на будынку ёсць свой рэальны герой-прататып. Праўда, імёны не захаваліся. Хлопчык з глобусам, дзяўчына са скрыпкай, сялянка, працоўны і інтэлігент — людзі адукаваныя, адказныя як сімвал яднання працы, творчасці і навукі. Менавіта такой была большасць беларускіх савецкіх грамадзян.



Шмат хто крытыкуе размяшчэнне Палаца прафсаюзаў побач з іншым вялікім аб'ектам — Палацам Рэспублікі. Будынкі сапраўды дысануюць, але да іх усе настолькі прывыклі, што гэты дуэт ужо амаль не выклікае спрэчак, увасабляючы агульную тэндэнцыю эклектычнага стылю ў збудаваннях, якія ўпрыгожваюць сталіцу.

Унутры будынка і сёння даволі ажыўлена — рэпеціруюць танцоры, працуюць вакальныя студыі і моўныя курсы, праходзяць спектаклі. Нядзіўна, што Палац прафсаюзаў натхняе сучасных творцаў — фатографаў, мастакоў. І будзе, здаецца, яшчэ доўгі час.

**Тамара ГУЛЕНКА,**
**фота Дар'і Мартынавай**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас **lim_new@mail.ru** з пазнакай **«Культурны ракурс»** — лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*


ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**





**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 17.03.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1935.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 983

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12




ISSN 0024-4686